№ 10/2016(1061)
ISSN 0320-7579

# БЯРОЗКА



**АДЗІН ДЗЕНЬ**
З БІЗНЕС-АНАЛІТЫКАМ

**ЗАЛЕЖНАСЦЬ & ЗАХАПЛЕННЕ**
ЖЫЦЦЁ VS ІНТЭРНЭТ

**№ 10**

# Гукі для нашчадкаў

**Музей гісторыі тэатральнай і музычнай культуры прадстаўляе**



Кантрабас італьянскага майстра П’етра Антоніа Ландольфі 1750 года вырабу набыў І.Р. Салодчанка ў Кіславодску ў пасляваенныя гады за шапку сухароў (паводле ўспамінаў вучняў) у чалавека цыганскай нацыянальнасці, які іграў на вакзале. Ігнацій Рыгоравіч Салодчанка — выдатны савецкі кантрабасіст-саліст, адзін з заснавальнікаў кантрабаснага мастацтва ў Беларусі. Пасля смерці маэстра яго ўдава падарыла інструмент Беларускай кансерваторыі.

Фісгармонія — язычковы клавішна-пнеўматычны духавы музычны інструмент, разнавіднасць гармонікі. Гукі ўтвараюцца за кошт вібрацыі металічных язычкоў, што прыводзяцца ў рух патокам паветра, які напампоўваецца нажнымі педалямі, пры націску клавішы і адкрыцці клапана. У музеі захоўваецца фісгармонія фабрычнай фірмы M. Heriegel Hez-Harmonium Fabeir, датаваная канцом XIX — пачаткам XX стагоддзя. Яе падарыў музею майстар Аляксандр Жукоўскі. Інструмент дастаўся яму ад бацькі, майстра музычных інструментаў Усевалада Жукоўскага, у 1970-я гады ў няспраўным стане. Інструмент быў адрэстаўраваны А. Жукоўскім і перададзены ў музей у 1995 годзе.





Раяль 1945 года выпуску нямецкай фірмы Ronisch быў падораны Л.П. Александроўскай вядомым палітычным дзеячам П.К. Панамарэнкам. Доўгі час захоўваўся на сядзібе спявачкі ў раёне сучаснага стадыёна «Дынама». Экспанат добра захаваўся і знаходзіцца ў рабочым стане.

**Дзе гэта можна ўбачыць: Мінск, завулак Музычны, 5.**

# Усё лішняе — за межы



Кацярына Захарэвіч

З гэтага панядзелка я вырашыла пачаць новае жыццё. Не тое, якое пачынаюць некалькі разоў на месяц і якога хапае добра калі на дзень, а самае сапраўднае.

Правільная арганізацыя прасторы — альфа і амега камфортнага жыцця (не верыла ў гэта, пакуль мяне не пераканаў добры сябар: павыцягваў з майго працоўнага стала шуфляды і прымусіў усё-ўсё разабраць, за што я вельмі яму ўдзячная). Праўда і тое, што мы, людзі творчыя, не заўсёды дбаем пра рэчы на нашым стале і скамечаную вопратку на крэсле. А колькі нашых кубкаў з-пад кавы ўжо маюць сваю пеніцылінавую цывілізацыю?!

Ты, дружа, пытаеш, навошта марнаваць час на раскладванне ўсяго «па месцах», калі праз пару гадзін парадак будзе парушаны?

Дзіўна, але навядзенне парадку — насамрэч акцыя аднаразовая. Далей дастаткова яго проста падтрымліваць.

Арганізоўваем прастору ў пакоі:

1. Не імкніся перабраць усе рэчы за адзін дзень. Гэты манатон вельмі хутка надакучыць, асабліва калі ты не надта замарочваўся раней. Да таго ж, рэзкія перамены напачатку вельмі бянтэжаць. Так што прысвячай навядзенню парадку паўгадзінкі ці гадзінку штовечар не болей.

2. Не ведаеш, з чаго пачаць? Выберы напрамак, па якім новае жыццё будзе ўваходзіць у твой пакой (напрыклад, ад акна да дзвярэй, злева направа, з верхніх палічак да ніжніх і г. д). Увага: кожная новая заваяваная чысцінёй тэрыторыя з гэтага моманту падпарадкоўваецца законам парадку.

3. Кожнай рэчы — сваё месца. Калі табе здаецца, што твая асадка — касмапаліт (у сэнсе, можа жыць у абсалютна любым месцы), гэта табе так здаецца. У вызначэнні месца для кожнай рэчы прыслухоўвайся да сваіх звычак: каб усё ляжала прадказальна і знаходзілася хутка.

4. Не трымайся за рэчы. Той самы мой сябар кожны дзень імкнецца штосьці выкінуць з пакоя — вельмі ўзнімае настрой і не дае прасторы засмеціцца. Я спачатку не паверыла, але, аказалася, выкінуць сапраўды ёсць што кожны дзень: паперкі-ліставанні з сяброўкай на занятках, «прыгожанькія» скрыначкі і шкляначкі, якія ўвесь час збіралася неяк выкарыстаць, але так і не сабралася і г. д.

5. Старанна выконваеш папярэдні пункт, а рознай дробязі ўсё яшчэ шмат і не хапае ёй месца? На дапамогу прыйдуць рознага кшталту арганайзеры. Можна набыць розныя скрыначкі ды скарбоначкі, а можна зрабіць іх сваімі рукамі: у інтэрнэце на гэты конт вялікая колькасць парад і ўрокаў.

З пакоем, здаецца, справіліся. Калі табе гэтага мала, можаш зрабіць тое самае ў віртуальнай прасторы: перабраць файлы на камп'ютары ці тэлефоне, інфармацыю ў сацыяльных сетках.



Яна Мусвідас

# Цела майго горада

Пагадзіцеся, людзей мы разумеем куды лепш, чым жывёл, а тым больш гарады. Таму дазволю сабе вольнасць і параўнаю Мінск са звычайным Homo sapiens.

У сучасным свеце вялікая ўвага надаецца твару: шмат людзей гатовы трываць складаныя аперацыі, абы надаць яму патрэбны выгляд. У нашага горада ўсё так жа: некаторыя раёны, якія карыстаюцца папулярнасцю, набылі новыя, модныя абрысы. Так, напрыклад, вуліцу Зыбіцкую цяпер перапаўняюць трэндавыя бары і клубы, размешчаныя ў новенькіх архітэктурных будынках. Але не меншай любоўю ў моладзі карыстаецца Кастрычніцкая. Будынкі савецкіх заводаў гэтаму не перашкода, а іх суседства з навамоднымі ўстановамі дорыць вуліцы асаблівы шарм. Не заўсёды недахопы знешнасці трэба выпраўляць: яны могуць стаць прыкметамі індывідуальнасці.

Але нават самы прыгожы твар не можа падарыць чалавеку ўнутраную прыгажосць: за яе адказвае сэрца. У Мінска з левага боку, пад рэбрамі, размешчаны стары горад. Ён захоўвае не толькі памяць пра мінулае, але і збірае новыя ўражанні. Так, летнімі вечарамі Верхні горад слухае класічную музыку, знаёміцца з вулічнымі музыкамі, назірае за маладымі паэтамі і танцорамі. А Ніжні хавае ў сваіх завулках кнігарні, антыкварныя крамы і кавярні.

Недалёка ад сэрца знаходзяцца лёгкія, яны хварэюць на раннюю абстракцыю. Вы не падумайце, з імі ўсё не так дрэнна, але з-за колькасці транспарту і некаторых вытворчасцей яны не могуць быць цалкам здаровымі. Нават Драздны і Язмінавая не дапамагаюць Мінску дыхаць вальней.

Чалавеку важна ўстойліва стаяць на «сваіх дзвюх». З нагамі ў Мінска ўсё добра, яны знаходзяцца ў Першамайскім раёне. Правая — Нацыянальная бібліятэка, захоўвае ў сабе шматвяковую мудрасць народа і культурныя каштоўнасці. Левая — Акадэмія навук, дапамагае нацыі не стаяць на месцы, займаецца не толькі вывучэннем старога, але і даследаваннем новага.

Але ў кожным гарнцы мёду ёсць кропля дзёгцю — у Мінску гэта пазногці. Пад імі сабраўся ўвесь бруд, які толькі ёсць у горадзе. Некультурныя людзі — тыя, хто не шануе сваю гісторыю, адмаўляе мову і не прымае ўсталяваныя правілы маралі. Гэтакай дробяззю можна сапсаваць нават ідэальны вобраз. Для таго, каб усё выправіць, не абавязкова выдаляць пазногці — досыць вычысціць тое, што пад імі сабралася. З-за свайго ўзросту я яшчэ не да канца ўяўляю, як гэта можна зрабіць. Але простым манікюрным наборам, відавочна, не абысціся.

# Брацік


Анатоль Галушка

Можа, гэта з гадамі так… Не ведаю. Ды апошнім часам перад сном, калі ў пакоі цёмна і ціха, а сон не ідзе, памяць пачынае падкідваць нейкія гісторыі з жыцця, якія не вельмі хочацца ўспамінаць. Ці гэта ўжо сумленне патрабуе пакаяння? Напэўна, у кожнага чалавека ёсць нешта такое, за што не-не ды пачынае мучыць сорам.

Гэты выпадак адбыўся шмат гадоў таму, але не забыўся, нагадвае пра сябе. І шчыміць недзе ў грудзях…

Канец кастрычніка, бабіна лета, і цэлы тыдзень вольны — канікулы. Звычайна мы, зарачанскія хлапчукі, ішлі тады ў лес па клюшкі. Ужо не за гарамі першыя маразы, лёд і наша любімая гульня — хакей! І каб хапіла клюшак на ўвесь сезон, каб не прасіць потым у іншых, трэба было самому паклапаціцца і зрабіць сама меней штук пяць. А лепей — больш. Бывала, што самаробная клюшка нават аднай гульні не вытрымлівала — разляталася на кавалкі.

Збор прызначылі апоўдні каля старой Антосевай вярбы. Сабралася чалавек дванаццаць, кожны з сякерай на плячы ці за шырокім салдацкім рэменем з вялікай зоркай на жоўтай выгнутай бляшцы. Такі рэмень (мы называлі яго спражка) проста павінен быў быць у кожнага хлапчука, які сябе паважае. У мяне быў, і за яго збоку была засунута невялікая, але вельмі вострая сякера.

Калі мы ўжо рушылі ў бок ракі, мяне дагнаў малодшы брацік Сярожа. Учапіўся за руку, радасны: «І я з табою, я таксама хачу ў лес па клюшкі!» Але куды ж браць малога васьмігадовага хлапчука?! Дзе і калі там за ім сачыць? Ды як я ні намагаўся ўгаварыць малога не ісці за мною — той ніяк не згаджаўся.

Вось і крайнія хаты мінулі, хутка масток праз канаву, а Сярожка ўсё чапляўся, прасіў. Мае сябры перайшлі ўжо масток і зніклі за насыпам дамбы. Я пачаў злавацца. Прыкрыкнуўшы на малога, схапіў яго за плячо, развярнуў і піхнуў у бок вёскі:

— Марш хутчэй дамоў!

Сам жа пабег даганяць кампанію. Але на мастку спыніўся і азірнуўся. Сярожка з усяе моцы часаў за мною, відаць, баючыся адстаць. Ён бачыў — я стаю на месце і, відаць, падумаў, што чакаю яго. Ды калі Сярожка, бадзёра ўсміхаючыся ва ўвесь твар, падбег да мяне, я не стрымаўся — злосна закрычаў і моцна штурхнуў малога на пясок. Яшчэ і некалькі таўкачоў дадаў.

— Паспрабуй толькі перайсці гэты мост — атрымаеш яшчэ больш! — пагразіўшы кулаком, пабег даганяць хлопцаў.

Ды адбегшы якую сотню метраў, спыніўся, пачаў чакаць: ці паслухаецца малы? Каб не пайшоў усё ж за мною. Тут жа рака, вузкая высокая кладка. Ці доўга да бяды?

Прайшло некалькі хвілін — браціка не было відаць. Мне стала цікава: вярнуўся ён дамоў ці не?



Падышоў да дамбы і вызірнуў. Сярожка сядзеў на тым самым месцы. Схіліўшы галаву ў вялікай зімовай шапцы-вушанцы, ён перабіраў бруднымі пальчыкамі шэры пясок і ціха плакаў. І гэтая маленькая, хударлявая, безабаронная постаць на вытаптаным статкамі кароў пяску была такая жаласлівая, што ўсю маю злосць бы ветрам здзьмула. Стала так шкада брацiка, што аж у самога слёзы набеглі!..

Хацеў вярнуцца, пашкадаваць, нават некалькі крокаў зрабіў, але стрымаўся. Мае хлопцы былі ўжо амаль каля лесу — трэба было даганяць. Бо дзе іх потым знойдзеш у лесе?! І я, перамагаючы сябе, раз-пораз азіраючыся, пабег наўздагон. Ад самага лесу яшчэ раз азірнуўся і ўважліва агледзеў дамбу і раку — малога нідзе не было відаць. Крыху супакоіўся — значыць, Сярожка вярнуўся-такі дамоў. Але ўвесь час, што быў у лесе, трывога і жаль не пакідалі. Маленькая постаць брацiка стаяла ўваччу.

Вельмі хацелася неяк загладзіць сваю віну, парадаваць малога. Тады я спецыяльна для яго знайшоў і высек з ядлоўцу невялічкую зграбную клюшку.

З хваляваннем вяртаўся з лесу. Ці хоць дома брацік? Сярожка быў дома. Было відаць: ён яшчэ пакрыўджаны на мяне. Хацеў абняць, пашкадаваць, але Сярожка вывернуўся і адышоў убок. Калі ж я прынёс і даў яму ў рукі маленькую клюшку — вачаняты хлопца загарэліся.

— Гэта мне?

— Табе. Каму ж яшчэ, — у мяне адлягло ад сэрца. — Бач, маленькая, спецыяльна для цябе знайшоў.

На другі дзень я на ўсе кішэнныя грошы накупіў пернікаў, газіроўкі і карміў-паіў малодшых брацікаў — Сярожку і Сашку. Сярожка даўно забыў свае дзіцячыя крыўды і шчыра радаваўся шыпучай газіроўцы, смачным пернікам.

Ён забыў. А вось я помню. Цяпер майму брацiку Сярожку ўжо сорак чатыры гады. Гэта высокі дужы мужчына. Але і сёння, калі згадаецца той выпадак, мне хочацца абняць яго і пашкадаваць.

І, відаць, трэба ўсё ж папрасіць у яго прабачэння, трэба…

# Індывідуальнасць вучняў: што гэта?

Як разумець паняцце «індывідуальнасць»? Ці заўсёды «я» школьнікаў дарэчы і як ім дапамагчы яго развіць? Пра гэта размаўлялі ў настаўніцкай Акцябрскай раённай гімназіі. Карэспандэнт «Бярозкі» падслухаў гутарку выкладчыкаў рускай мовы Жанны Анатольеўны Філіповіч, беларускай мовы Таццяны Сяргееўны Крэч, нямецкай мовы Ірыны Віктараўны Кароль і настаўніцы пачатковых класаў Іны Уладзіміраўны Ярмоленка.

**Ж.А.:** На мой погляд, індывідуальнасць — гэта імкненне вылучацца з натоўпу. Гэта набор рыс характару, які робіць чалавека непаўторным. Лепшы спосаб выказаць сваё «я» — умелае абгрунтаванне адказу на ўроку, ініцыятыўнасць, крэатыўнасць, жаданне атрымаць большы аб'ём ведаў, чым, напрыклад, прапаноўвае падручнік.

**Т.С.:** Адна з маіх вучаніц любіла паспрачацца са мной наконт напісання некаторых слоў або пастаноўкі знакаў прыпынку. Яна звярталася да слоўнікаў і даведнікаў, кансультавалася са сваёй матуляй (філолагам па адукацыі). Старанна спрабавала даказаць свой пункт гледжання. Такія сітуацыі часта паўтараліся падчас падрыхтоўкі да цэнтралізаванага тэсціравання. Хоць у выніку аказвалася, што вучаніца памыляецца, гэта пайшло ёй на карысць. Яна заўсёды памятала пра этыкет, пра пэўную мяжу. Дарэчы, дзяўчынка дасягнула вялікіх вынікаў і на конкурсах, алімпіядах, і на ЦТ. Лічу яе сапраўднай індывідуальнасцю, паважаю такіх вучняў.

**І.У.:** Такім вучням недастаткова атрымаць гатовую інфармацыю. Сухімі фактамі яны не задавольваюцца. Прачытаць падручнік і пераказаць — гэта не пра іх. Яны заўсёды знаходзяцца ў пошуку і жадаюць самі дайсці да ісціны.

**І.В.:** Ёсць вучні, якія не валодаюць тэмай як след, але лічаць неабходным «уставіць свае пяць капеек». Ім не прыходзіць на розум думка: «Неабходных ведаў мне не стае, лепш устрымацца ад каментарыя». Яны не звяртаюць увагі на тое, што іх выказванні могуць быць не да месца.

**Т.С.:** Так, некаторыя школьнікі такім чынам паказваюць свой характар, сваё «я» — каб толькі звярнуць на сябе ўвагу. Ім падабаецца быць галоўнымі героямі, яркімі дзеючымі асобамі. Карыснымі справамі ці выдатнымі вынікамі ў навучанні дамагчыся гэтага яны не могуць, таму пачынаюць свавольнічаць.

**І.В.:** Вопытнаму настаўніку няцяжка зразумець, калі вучань імкнецца дайсці да ісціны і праявіць свае здольнасці, а калі ён капрызіць і спрабуе пярэчыць настаўніку. Мне падабаецца працаваць са школьнікамі, якія не толькі ўважліва слухаюць на ўроку, але і задаюць пытанні, робяць прапановы і заўвагі.

**Ж.А.:** Такім чынам дзеці вучацца разважаць, адстойваць свой пункт гледжання, дабівацца пастаўленай мэты самастойна. Падобная актыўнасць і спрыяе развіццю індывідуальнасці.

**І.У.:** Вучні ўсе розныя. Хтосьці актыўна праяўляе сябе, а хтосьці саромеецца ці баіцца неразумення з боку настаўнікаў і аднакласнікаў. Але кожны вучань — гэта апрыёры індывідуальнасць, асоба. І дапамагаць вучням развіваць сваё «я» — задача кожнага педагога.

Падслухаў Данііл Шэйка



# Аналітыка мары

Каб даведацца, хто такі бізнес-аналітык, запыту ў Google недастаткова. Для разумення гэтай прафесіі неабходны відавочны прыклад.

Працоўны дзень Антона пачынаецца а дванаццатай. Чаму так позна? Таму што кампанія працуе на Злучаныя Штаты Амерыкі.

Невялікае офіснае памяшканне размясцілася на восьмым паверсе мінскай будыніны, адтуль адкрываецца выдатны від на Плошчу Перамогі, але ў аналітыка няма часу любавацца пейзажамі — наперадзе восем гадзін шчыльнай працы.

Антон робіць вялікі кубак моцнай кавы, актывізуе ноўтбук, падключае габарытны манітор і настройвае навушнікі. А разам з гэтым фармулюе сутнасць сваёй прафесіі: асноўная задача кожнага аналітыка — аптымізаваць бізнес-працэс і дапамагчы сваім кліентам павялічыць даходы.

Пошта — асноўны сродак камунікацыі, таму наш герой правярае яе перш за ўсё. Адзін з адным спецыялісты звязваюцца праз чат. Для кантакту з кліентамі выкарыстоўваюць е-мейлы і інтэрнэт-званкі. З-за розных часавых паясоў з начальствам і заказчыкамі да раніцы заўсёды збіраецца шмат лістоў. Атрымаўшы новыя заданні, аналітыкі размяркоўваюць іх па ўласным жаданні.

У беларускім офісе працуюць чатыры досыць маладыя хлапцы. Кожны член каманды займаецца сваім кірункам. Напрыклад, «фішка» Антона — веды ў галіне праграмавання і камп'ютарных тэхналогій. Яго паплечнікі — эканамісты і маркетолагі. Універсальнай адукацыі для гэтай сферы ў Беларусі пакуль няма.

Кампанія, у якой працуе наш герой, мае падраздзяленні ў шасці краінах. Усе прафесійныя пытанні вырашаюцца на англійскай мове. Працоўны працэс будуецца на базе двух карпаратыўных дакументаў: зводу маральна-этычных правілаў і файла з пералікам заказчыкаў і праектаў.

У дзень нашай сустрэчы Антон займацца аналізам адной буйной амерыканскай страхавой фірмы.

Перш за ўсё спецыяліст трапляе на сайт кліента: праходзіць «шлях» патэнцыйнага наведвальніка, праглядае раздзелы і нават робіць заказ. Выяўляе памылкі, якія перашкаджаюць: часам інфармацыя няправільна трапляе ў аналітычны цэнтр або патрэбны тавар не з'яўляецца ў кошыку. Антон выпраўляе недахопы альбо адпраўляе заўвагі далей — супрацоўнікам тэхнічнага аддзела. Але ў страхавой кампаніі ўсё чыста — памылак няма, мэта на сёння — рэклама.

Каб маркетынгавая стратэгія была прадуктыўнай, трэба ўявіць партрэт «патэнцыйнага наведвальніка» інтэрнэт-старонкі: узрост, даходы, адукацыя, сямейнае становішча. Пасля можна пераходзіць да дзеянняў.

Каманда занятая работай, часу на размовы няма, — і мне становіцца сумна, я прапаную ўключыць музыку. Але аналітыкі адмаўляюцца: нават мінімальны шум можа перашкодзіць іх засяроджванню. Да справы яны ставяцца вельмі сур'ёзна.

Фіксаванага перапынку «на абед» няма, але ў хлопцаў ёсць магчымасць пайсці на спецыяльна абсталяваную кухню — перахапіць што-небудзь або выпіць кавы. На працягу ўсяго працоўнага дня ў памяшканні ціха, я назіраю за ўсім збоку. Перыядычна чуваць, як бізнес-аналітыкі размаўляюць з кімсьці анлайн. Канешне, па-англійску.

Офіс выклікае ў мяне асацыяцыі з амбасадай: супрацоўнікі знаходзяцца ў Беларусі, але працуюць па правілах іншай дзяржавы. Дарэчы, такога тыпу кампаній у краіне некалькі. У іх прадстаўнікоў часта бываюць камандзіроўкі за мяжу.

Калі шчыра, гэта работа — мара: безлімітная кава, новы плэйстэйшн і велізарны тэлевізар. Толькі вось для таго, каб трапіць у гэтую казку, трэба валодаць вострым розумам і дасканала ведаць англійскую.

Яна Мусвідас

## 10 цікавых фактаў

**1.** Бізнес-аналітыкі не заўсёды працуюць у спецыялізаваных кампаніях, некаторыя фірмы бяруць спецыялістаў да сябе ў штат.

**2.** Ёсць кліенты на пэўны час: вырашаюць праблемы і сыходзяць. Але ёсць і тыя, хто на працягу пяці і больш гадоў беспярапынна супрацоўнічаюць з аналітыкамі.

**3.** Асноўны сродкам для вывучэння наведвальнікаў сайтаў з'яўляецца прылада Google Analytics

**4.** Сумоўе на пасаду аналітыка найчасцей праходзіць у Skype.

**5.** Для зносін з кліентамі ў кампаніях, якія займаюцца бізнес-аналізам, ёсць адмысловыя, абароненыя каналы ў інтэрнэце.

**6.** Каб рабіць заказы з сайтаў кліентаў, у бізнес-аналітыкаў ёсць міжнародная крэдытная картка.

**7.** Для бізнес-аналітыкаў вельмі важную ролю іграюць стасункі ў камандзе, бо многія праекты вядуцца сумесна. Таму кампаніі перыядычна ладзяць супрацоўнікам адпачынак «за кошт фірмы».

**8.** Дапамагаючы сваім кліентам, аналітык сам паглыбляецца ў канкрэтны бізнес. А гэта звычайна добры падмурак для заняткаў прадпрымальніцтвам.

**9.** Задачы аналітыка ніколі не паўтараюцца. Дзень байбака на гэтай працы ў прынцыпе немагчымы.

**10.** Можна працаваць з пляжа Тайланда ☺

Аўтар рубрыкі Ліна Багданава

# Залежнасць & захапленне

Макс павярнуўся на другі бок і паспрабаваў заснуць. Не атрымлівалася. Уставаць а палове на сёмую, а тут — піраты, гонкі, стратэгіі на выжыванне, танчыкі. Адным у морах-акіянах карціць, другім тэрмінова снарады падвезці, трэцім да новага ўзроўню пары ачкоў не хапае. Таму паддай, гэтага падарві. Ды і на мірных лакацыях рэсурсаў катастрафічна не хапае. Трэба ў шахту спусціцца, але ж ноч на дварэ...

У іх палова класа чаціцца: гонкі ладзяць віртуальныя, стаўкі робяць. На вучобу часу застаецца ўсё менш. Дамашнія заданні даводзіцца рабіць у перапынках паміж разнастайнымі бойкамі, пошукамі скарбаў і тэлефона-сеціўнымі пастамі (трэба ж быць у курсе сітуацыі ў сяброў і сапернікаў).

— Ну і жыццё пайшло, суцэльнае хваляванне...

Макс уздыхнуў і лёг на спіну. У акне красавалася поўня.

— Вісіць сабе, вытрэшчваецца. Ні турбот, ні клопатаў. Сумная халодная вечнасць. А тут...

Перавярнуўся на жывот — нязручна. Зноў лёг на спіну. Можа, устаць ціхенька, уключыць планшэт? Разабрацца з усімі місіямі, якія патрабуюць неадкладнай рэакцыі...

— А раптам у мяне залежнасць?

Макс успомніў нядаўнюю сустрэчу са школьным лекарам, яго папярэджанні і парады. Падскочыў у ложку. Сеў. Змізарнеў. Гэтага яшчэ не хапала! Ну, сапраўды... Мала начнога жаху, увесь звыклы рэжым збіўся. Раней валяўся ў ложку да паловы на восьмую. Потым мыўся, апранаўся, піў гарбату хвілін пятнаццаць. І дзесяць хвілін крочыў да школы. Без праблем. Цяпер жа з першымі гукамі будзільніка Макс нясецца ў прыбіральню. Там у зацішным месцы чакае гаспадара любімы планшэцік. Ну, і ўсе віртуальныя клопаты. Узроўні ўскладняюцца катастрафічна. Пачаліся спазненні на ўрокі. Ды і гарбата ўсё часцей застаецца некранутай. І ў школе Макс няўважлівы, часта думае не пра тое. Стабільныя «сямёркі» — «васьмёркі» саступілі месца «шасцёркам». Настаўнікі разводзяць рукамі, запрашаюць на дадатковыя заняткі, прапаноўваюць індывідуальную дапамогу. А калі да іх хадзіць па тую дапамогу? І так нічога не паспяваеш! Ды і навошта Максу добрыя адзнакі, калі кіроўцу сто гадоў школьныя навукі патрэбныя. А ён марыць стаць менавіта кіроўцам, дальнабойшчыкам. Што ж датычыцца ўважлівасці, то тут ніякіх адхіленняў не адбылося, проста ўвага перанакіравалася. Па сутнасці, на ўроках матэматыкі, рускай, біялогіі Макс завісае ў віртуальных аблоках. Выбудоўвае эфектыўныя стратэгіі, прыкідвае планы на вечар, а то і на дзень (калі мамы дома не будзе). Прадчувае новыя ўзроўні і перамогі. З сябрамі-прыяцелямі апошнім часам сустракаецца нячаста: рэжым не супадае. Хіба што дахаты дайсці і навінамі абмяняцца. А так... у каго клуб палтацы, у каго польская мова, а хтосьці, як і сам Макс, у сеціва выйсці спяшаецца.






— Але ж раней знаходзілі час і на лавачцы пасядзець, — скардзіўся хлопец начному свяцілу, — і ў кавярню зазірнуць, і на скейтах па парку палётаць. Радасна жылі. Весела. Можа, у мяне новы перыяд жыцця? Я раблюся дарослым? А што, дарослыя, калі меркаваць па бацьках, дарма час не губляюць. Хіба што па выхадных, ды і тое напалову. У выхадны ў мамы шмат хатніх клопатаў. А тата паўдня ў гаражы. Вось і я...

Ён усміхнуўся, успомніўшы свае выхадныя: вось дзе раздолле, па тры разы ў кожную гульню зайсці можна, з хлопцамі навіны абмеркаваць, фоткі палайкаць. І здрыгануўся: а калі ўсё ж залежнасць? Тады што, бывай свабода? Губляць свабоду не хацелася. Пры ўсіх віртуальных радасцях. І потым, жыццё не павінна абмяжоўвацца інтэрнэтам.

**Шкодная вучылка:**

— Вядома, залежнасць, а што ж яшчэ? У вучобе з'ехаў, ад даручэнняў адмаўляешся, дома не дапамагаеш. Ці то ты ёсць, ці то няма цябе. Гэта ў віртуальным свеце ты асоба, а ў рэальным — яшчэ не. А можаш і не дарасці зусім, калі

своечасова не адумаешся. Школа дае ўсім роўныя шанцы — застаецца толькі выкарыстаць іх па максімуме. І хай твой любімы інтэрнэт табе дапаможа — прымусь яго папрацаваць табе на карысць, а ўсе гэтыя віртуальныя дурасці абмяжуй. Жыві рэальнасцю!

**Першакласнік з яблыкам:**

— Сто адсоткаў, залежнасць! Столькі часу ў інтэрнэце праводзіць — звар'яцець можна! Мама з татам мне толькі паўгадзіны ў дзень дазваляюць. Вядома, там шмат цікавага. Але ў сапраўдным жыцці лепш! З сябрамі пабачыцца, пасмяяцца, на скейтбордзе па парку палётаць, паветрам свежым падыхаць. У камп'ютары ж усё штучнае! Возьмем, напрыклад, яблык... Ты б памяняў адзін сапраўдны на сотню віртуальных? Так? А я — не. Ён наліўны, салодзенькі. А як пахне! Выключай свой камп. Прыходзь у госці, пачастую.

**Прасунуты старшакласнік:**

— Зацягнула цябе, дарагі таварыш! Спыніся. І асцярожней з гульнямі ў сеціве. Тая яшчэ дрыгва. Зразумелая справа, захапіўся — а з кім не бывае. Без захапленняў свет губляе смак і колер, а мы — індывідуальнасць. Захапленні — гэта наша патрэба ў самасцвярджэнні і самаразвіцці. Яны могуць стаць справай усяго жыцця і нават прыносіць істотны даход. Але далёка не заўсёды захапленні вядуць да значных вынікаў. Захапленні здольныя выціснуць з нашага жыцця астатнія заняткі і патрэбы. А гэта ўжо падобна на абмежаванне волі, ці не праўда? З гэтага і пачынаецца залежнасць.

Не акцэнтуй увагу на падрабязнасцях, а жыві яркім і поўным жыццём. Выберы некалькі захапленняў і чаргуй іх. Гэта можа быць спорт, лідарства, журналістыка, жывёлы, мастацтва ці лазертаг. Галоўнае, каб гэта была дастойная альтэрнатыва інтэрнэту. І шанец на рэальны поспех — нам, хлопцам, ён жыццёва неабходны. Часцей стасуйся з сябрамі ўжывую. Падцягні вучобу. Складзі сабе строгі рэжым і старайся яго не парушаць. Памятай, ты жывеш у найлепшы час і ў найлепшым месцы! Лаві момант!

**Вопытны псіхолаг:**

— Якое своечасовае хваляванне! Ты яшчэ здольны адэкватна ацэньваць сітуацыю, але і прыкметы залежнасці ў наяўнасці. Тваё жыццё змянілася. І не ў лепшы, заўваж, бок. Сапраўды, любое захапленне дорыць новыя адчуванні і ўражанні, павышае самаацэнку, напаўняе жыццё асаблівым сэнсам і робіць чалавека больш шчаслівым. Але часам яно ператвараецца ў залежнасць, начыста губляючы сваю прывабнасць і каштоўнасць. Грань паміж захапленнем і залежнасцю тонкая. На жаль, захапленне камп'ютарнымі гульнямі здольнае прывесці да страты кантролю над паводзінамі, падмены жыццёвых каштоўнасцей памылковымі. Калі настрой, жаданні і думкі наўпрост залежаць ад пэўных знешніх прычын, мы перастаём быць вольнымі.

Пастарайся не злоўжываць небяспечным захапленнем у імя ўласнай будучыні. Сапраўднае жыццё вартае таго, каб быць галоўнай чалавечай каштоўнасцю. Жыві тут і цяпер!

# Па гендары

Кіно, заснаванае на рэальных падзеях, набірае абароты. Лаўрэаты Оскара-2016 — выдатнае гэтаму пацвярджэнне. Лепшы фільм года — «У цэнтры ўвагі» прысвечаны аднаму з найбуйнейшых расследаванняў у гісторыі сучаснай журналістыкі. Не застаўся па-за ўвагай і «Той, які выжыў», падзеі якога развіваюцца ў каланізаванай Амерыцы. Рэжысёры не сталі абыходзіць бокам і далікатныя тэмы: экранізацыя гісторыі пра першую аперацыю па змене полу — «Дзяўчына з Даніі» заваявала сэрцы крытыкаў розных краін.

Але гэта далёка не цэнтральная навіна Галівудскага Алімпа. Кінаакцёры актыўна завастраюць увагу на праблеме дыскрымінацыі жанчын. Так, у сакавіку дзеячы кінамастацтва склалі адкрыты ліст сусветным лідарам, у якім заклікалі палітыкаў прыняць меры для вырашэння дадзенай праблемы. Але і гэтым не ўсе абмежаваліся. Напрыклад, Эма Уотсан (добра вядомая па ролі юнай чараўніцы Герміёны з «Гары Потэра») на год прыпыніла кар’еру, каб больш часу прысвяціць рашэнню гендарнага пытання.

Фільмы, знятыя на падставе рэальных падзей, не заўсёды стаялі ў адным шэрагу з астатнімі, але цяпер мы смела можам сцвярджаць, што яны трывала зафіксаваліся ў шэрагу лепшых. Спадзяюся, што гісторыя правоў жанчын вырашыцца аналагічным чынам.

На аснове вышэйзгаданых фактаў складзены рэйтынг, у які ўвайшлі мае любімыя мастацкія фільмы пра самых яркіх і цікавых прадстаўніц розных сфер і эпох. Зразумела, у аснову кожнага сюжэта «ўмуравана» рэальная падзея.

## 1. «Джэйн Осцін», Вялікабрытанія — Ірландыя, 2006




Гісторыя жыцця Джэйн Осцін зусім не саступае біяграфіям гераінь з яе раманаў, таму фільм, прысвечаны гэтай пісьменніцы, атрымаўся неверагодна яскравым і хвалюючым. Выдатныя пейзажы дзікай Англіі прываблiваюць з першых кадраў, а касцюмы канца XVIII — пачатку XIX стагоддзя дапамагаюць глыбей адчуць эпоху. Таму, калі вы з дзяцінства зачытваецеся кнігай «Ганарлівасць і прадузятасць», гэтая стужка для вас.

## 2. «Каханкі кафэ дэ Флор», Францыя, 2006




Думаю, кожны хоць раз у жыцці чуў такое прозвішча як Сартр, але я не ўпэўнена, што ўсе ведаюць прозвішча дэ Бавуар. Стужка «Каханкі кафэ дэ Флор» апавядае пра адну з самых вялікіх жанчын у гісторыі Заходняй філасофіі. Галоўная гераіня фільма — Сымона дэ Бавуар — паўстае перад намі не толькі як сур’ёзны філосаф, але і як звычайная ласкавая жанчына, якая кахае. Гэты фільм быў зняты ў Францыі і шырокай вядомасці не атрымаў. Гэта значыць, што перакладу на рускую мову вы не знойдзеце, але асобнік з субцітрамі даступны без праблем.




## 3. «Фрыда», ЗША — Канада — Мексіка, 2002

Фрыда Кала — адна з самых вядомых жанчын-асоб. З яе бяруць прыклад, ёю захапляюцца. Нават у нас у Мінску, на вуліцы Кастрычніцкай, ёсць графіці вышынёю ў цэлы будынак, на якім намаляваная мастачка. Сам фільм пра неўтаймоўнае жаданне жыць і ствараць, пра тое, што нават самы страшны боль не можа перашкодзіць моцнаму, таленавітаму і амбіцыйнаму чалавеку. Такія фільмы вучаць цаніць жыццё значна больш.




## 4. «Вялікія вочы», ЗША — Канада, 2014

Не ўсе творчыя людзі цвёрдыя, як крэмень. Напрыклад, Маргарэт Кін была вельмі сціплай мастачкай і з-за сваёй сарамлівасці і нерашучасці выдатна нацярпелася. Карціны Маргарэт загадкавыя і чароўныя, а гісторыя іх стварэння ўражвае. Пра тое, як нялёгка бывае сціплым асобам, расказвае фільм «Вялікія вочы». Магчыма, менавіта пасля яго вы перастанеце бянтэжыцца там, дзе не трэба.




## 5. «Каралева», Вялікабрытанія — ЗША — Францыя — Італія, 2005

Мяркую, са мной наўрад ці хто будзе спрачацца, калі я скажу, што Лізавета II — сімвал эпохі. Але чаго каштуе «быць іконай»? Як гэта: адчуваць такую адказнасць? На гэтыя і іншыя пытанні вам адкажа фільм «Каралева», фільм пра сапраўды мудрую і мужную сэрцам жанчыну, пра гераіню, за паводзінамі якой працягвае пільна сачыць увесь свет. «Божа, захоўвай каралеву!»




## 6. «Прынцэса Манака», Бельгія — ЗША — Францыя, 2014

Калі я была маленькай, я не марыла быць прынцэсай, аднак думалі пра гэта амаль усе мае сяброўкі. На той момант ад шалёных жаданняў мяне зберагла інтуіцыя. Быць «манаршай» асобай няпроста. Тады я ўжо згадвала пра адказнасць перад сваім народам. Часцей за ўсё членам каралеўскай сям’і прыходзіцца шмат чым ахвяраваць, пра што і расказвае фільм «Прынцэса Манака». Грэйс Кэлі пакінула кар’еру дзеля сям’і і дзяржавы. Уменню гэтай лэдзі расстаўляць прыярытэты застаецца толькі зайздросціць.




## 7. «Жанна Д’Арк», Францыя, 1999

Упершыню я паглядзела гэты фільм, калі мне было не больш за пяць. Менавіта з яго я даведалася пра легендарную Жанну Д’Арк. З дзяцінства нас вучаць, што дабро перамагае зло, а казкі заўсёды маюць шчаслівы канец. У гэтым фільме не ўсё радасна. Смеласць і патрыятычнасць Жанны засталіся недаацэненымі. Але ўсім нам яна падала адзін важны ўрок: трэба быць храбрымі і стаяць на сваім — толькі так можна захаваць сябе.

Яна Мусвідас

# Начны ўрок



Арцём хаваўся ў сценнай шафе ў кабінеце біялогіі, чакаючы, пакуль тэхнічка дашоргае швабрай, дагрукоча крэсламі і нарэшце сыдзе.

Ён і сам быў не рады, што падахвоціўся праседзець у школе цэлую ноч, але прыдумаць, чым бы яшчэ прыцягнуць увагу Светкі Савіцкай, ніяк не атрымлівалася. Бываюць жа такія непрабіўныя асобы! І сёння паглядзела пагардліва: «Ты-ы? Адзін да раніцы ў школе? Сэлфі з кабінета дашлі, інакш не паверу!»

Ну і добра. Адна ноч — глупства. Бацькі паехалі адпачываць, а бабуля засынае так рана , што не заўважыць, калі Арцём дома не пераначуе.

Прыбіральшчыца нарэшце выйшла. У вячэрняй цішыні выразна пстрыкнуў павернуты ў замку ключ.

Арцём вылез з шафы і панура сеў за парту. Зрабіў мабільнікам сэлфі. Паклаў сумку на стол і пастараўся ўладкавацца на ёй ямчэй. Аб Савіцкай спрабаваў не думаць. Ах, так, трэба ж даслаць сэлфі!

Ён зноў дастаў тэлефон і адкрыў апошняе фота. Ужо сабраўся пераслаць яго Светцы, як нешта на здымку здалося яму дзіўным. Арцём прыгледзеўся: за яго плячом відаць была чалавечая постаць!

Арцём рэзка павярнуўся — нікога. На сценах, падсветленых ліхтаром, вагаліся млявыя цені дрэў...

Стала страшна.

Ён павялічыў малюнак, але твар незнаёмца разгледзець не атрымалася.

Дзверы ў клас бясшумна адчыніліся, увайшла нейкая жанчына. Спынілася каля стала, утаропіўшыся ў прастору абыякавымі вачыма.

Арцём хацеў закрычаць, але не атрымалася.

— Трэба правесці тэсціраванне, — сказала жанчына. — Калі адкажаш правільна, пойдзеш дадому. Пытанне першае. Ты баішся?

Арцём паспрабаваў адказаць, але атрымалася толькі кіўнуць.

— Баішся, — пацвердзіла начная настаўніца. — Пытанне другое: трое сяброў дзеляць пірог з мясам. Як ты думаеш, дзе цяпер твой сабака?

Што за... Якая ёй справа да Чапы?! Паспрабаваў зманіць:

— У мяне няма сабакі.

Дама выдала дзіўны гук, падобны на смяшок:

— Праўда, у цябе ЎЖО няма сабакі. За ім не было каму даглядаць гэтым вечарам. Пытанне апошняе. Табе патрэбен палец?

— Які яшчэ палец?

Арцём не адрываў позірку ад маленькага скрутка, які дама павольна дастала з сумачкі і паклала на стол.

— Звычайны безыменны чалавечы палец.

— Мне не трэба ніякага пальца! — Завішчаў ён.

Жанчына ўсміхнулася.

***

Арцём не прыходзіў у школу два тыдні, а калі, нарэшце, з’явіўся, то ўпарта адмоўчваўся. Зрэшты, да яго не моцна прыставалі: навошта даймаць пытаннямі чалавека з перавязанай рукой?

Прывід Аркаша

# Кірмаш у Стоўбцах



Старонкі старога альбома. Колькі таямніц яны захоўваюць! Вочы людзей з пажаўцелых ад часу фотаздымкаў, здаецца, глядзяць у душу, вусны іх нячутна прамаўляюць імёны родных, землякоў, людзей, з якімі ўжо не сустрэцца.

Стоўбцы (раней у дакументах пісалі «Стоўпцы») былі калісьці мястэчкам. Што такое мястэчка? Як гаварыў Сяргей Грахоўскі, гэта «рай», што ўжо не вёска і яшчэ не горад. І адразу ўзнікае ўяўленне пра ціхае невялічкае, часта аддаленае ад чыгункі паселішча з дзвюма-трыма брукаванымі вуліцамі, вялікай рынкавай плошчай, доўгім шэрагам крам і крамак, шумнымі восеньскімі кірмашамі, адной або дзвюма цэрквамі і некалькімі сінагогамі.





Кірмаш.

На местачковым кірмашы сяляне бліжэйшых вёсак вялі гандаль збожжам, жывёлай, птушкай, сырымі скурамі, ільном, пяньой і палатном, прадметамі сельскага і местачковага рамяства.

Кіпеў, віраваў кірмаш… І было на ім усё, што толькі душы жадалася. Што ж засталося? Хіба што радкі вядомай байкі Кандрата Крапівы «Ехаў дзедка на кірмаш». Што ні кажыце, аператвораныя ў «барахолкі» гарадскія плошчы і стадыёны — гэта не кірмашы.

У канцы 30-х гадоў мінулага стагоддзя ў Стоўбцах было нямала невялікіх магазінаў і ларкоў, дзе гандлявалі хлебабулачнымі вырабамі — жытнім і пшанічным хлебам, булачкамі з макам, тварагом і іншымі начынкамі. Усе гандлёвыя кропкі атрымлівалі прадукцыю з прыватных пякарняў, уладальнікамі якіх у большасці былі яўрэі.

Надта папулярнай была пякарня Флер'яновіча. У ёй выраблялі асаблівы хлеб — з вышэйшых гатункаў пшанічнай мукі ды з кменам. Тут таксама выпякалі піражныя, тарты, даволі смачныя пончыкі з вішнямі, прымалі заказы на выпечку да юбілейных і святочных урачыстасцяў. Усе гэтыя вырабы рэалізоўваліся праз размешчаную тут жа краму.

На сённяшняй вуліцы Таварнай стаяла калісьці пякарня, у якой гатавалі жытні хлеб і пшанічныя прасаваныя сухары, так званыя галеты, для службоўцаў памежнай заставы ў Коласаве і іншых пагранічных застаў.

## Адміністрацыйныя памяшканні. Гарадскі суд

Памяшканне былога гарадскога суда, якое вы бачыце на здымку, не пацярпела ў гады вайны. Цяпер у ім размешчана частка ўпраўленняў і аддзелаў райвыканкама. Да 1939 года тут праводзіліся судовыя пасяджэнні, у асноўным, вырашаліся гаспадарчыя спрэчкі. У святочныя дні ў зале судовых пасяджэнняў ладзіліся культурныя мерапрыемствы, канцэрты



Пякарня.




Будынак гарадскога суда.



Будынак староства.



Клуб чыгуначнікаў.



Каля млына. Гэты вятрак стаяў на плошчы Бессмяротнасці.

мастацкай самадзейнасці, праводзіліся ўзнагароджанні. Там, дзе цяпер стаіць школа мастацтваў, раней размяшчаўся аднапавярховы будынак гарадской турмы, дзе адбывалі пакаранне за дробныя правіны.

## Староства

Будынак гарадской управы, ці «староства», размяшчаўся на ўзвышэнні злева ад цяперашняй царквы. Першы паверх яго быў складзены з бетонных блокаў, а другі — з дрэва. З вуліцы да яго вяла шматпрыступкавая бетонная лесвіца. У «старостве» дзейнічалі розныя аддзелы гарадской управы. Падчас Вялікай Айчыннай вайны другі паверх згарэў, а першы адбудавалі пад жыллё.

## Гміна

Гмінамі называліся нізавыя адміністрацыйна-тэрытарыяльныя адзінкі, што існавалі ў Заходняй Беларусі да 1939 года. Тэрыторыя гміны і колькасць населеных пунктаў у ёй у кожным ваяводстве былі рознымі. Існавалі сельскія і гарадскія гміны. Сельскай кіравалі войт, гмінная рада і ўправа (апошняя складалася з войтаў і лаўнікаў). Фактычна, усімі справамі гміны распараджаўся войт. Кіраўніцтва Стаўбцоўскай гміны знаходзілася ў двухпавярховым будынку, дзе цяпер месцяцца аддзел унутраных спраў райвыканкама. На адной палове другога паверха будынка жыў кіраўнік гміны — войт па прозвішчы Чарнабай. Ён часта наведваў вёскі і маёнткі для азнаямлення з патрэбамі жыхароў ва ўгнаеннях, зямельных участках і дапаможніках па агратэхніцы вырошчвання сельгаскультур, вырашаў пытанні аплаты працы старшыняў вёсак — так званых солтысаў і іншыя. Гміна дапамагала ў арганізацыі штогадовай выстаўкі сельскагаспадарчай прадукцыі. На месцы цяперашняга кінатэатра «Беларусь» размяшчалася доўгая дашчаная пабудова, чвэрць якой была занята супрацьпажарным інвентаром. Там стаялі чатыры павозкі з бочкамі, тры ручныя пажарныя помпы, меліся пажарныя рукавы, іншыя прылады для тушэння агню.




Касцельная плошча.

У гміне быў спецыяльны пакой для заняткаў з солтысамі па ваенна-паветранай абароне. Для гэтага налічвалася нямала процівагазаў, супрацьіпрытнай вопраткі, гумавых ботаў і іншага інвентару.

## Клуб чыгуначнікаў

Клуб чыгуначнікаў у мінулым стагоддзі размяшчаўся насупраць чыгуначнага дэпо станцыі Стоўбцы. Памяшканне клуба было драўляным, у яго вялікай зале часта дэманстраваліся кінафільмы, праводзіліся розныя культурныя мерапрыемствы. Нярэдка тут выступалі славутасці польскай эстрады. Гэты клуб карыстаўся вялікай папулярнасцю не толькі ў чыгуначнікаў, яго любілі наведваць усе жыхары горада. Памяшканне згарэла падчас вайны.

## Рэдута

Па цяперашняй вуліцы Танкістаў размяшчаўся ступеньчаты трохпавярховы драўляны будынак так званай рэдуты. На пешым паверсе яго была прасторная спартыўная зала, у гэтым жа памяшканні знаходзілася ўпраўленне справамі спорту. З трэцяга паверха быў выхад на кругавы балкон для адпачынку. Насупраць памяшкання рэдуты на адкрытай пляцоўцы за высокай сятчатай агароджай было поле для тэніса.

У гады вайны ў гэтым будынку размяшчаўся нямецкі шпіталь. Памяшканне згарэла пры адступленні фашыстаў. На яго падмурку быў затым узведзены Дом быту, цяпер гэты будынак купілі пад прадпрыемства.



Рэдута.



Нёман у 1930-я.




Стоўбцы на карце 1935 года ў складзе Навагрудскага павета.



Związek Straży Pożarnych

ŚWIADECTWO

stopnia pierwszego

Дакумент пажарнай службы.

## Нёман

Прынёманскі край на Стаўбцоўшчыне з даўніх часоў славіўся маляўнічымі краявідамі, квяцістымі духмянымі лугамі і ўвайшоў у гісторыю як родны кут Якуба Коласа.

У кожнага ёсць свая рака. Малая ці вялікая, яна абуджае пачуцці і лагодзіць душу ўспамінамі пра бесклапотнае маленства.

Хто толькі не ўслаўляў Нёман і не складаў яму песні. Але ж гэта не проста рака, якая цякла, цячэ і будзе цячы па Беларусі. Нёман — сведка многіх падзей, асяродак, дзе спрадвеку жылі людзі.

У кнізе «Борьба трудящихся Западной Белоруссии за социальное и национальное освобождение и воссоединение с БССР. Документы и материалы» сказана пра мястэчка Стоўбцы і раку Нёман: «Крупнейшей пристанью на Нёмане были Столбцы, местечко Минской губернии, но различные суда ходили по Нёману и выше Столбцов — от местечка Сверженя или даже от устья Усы, притока Нёмана. Владислав Сырокомля, бывший в Столбцах перед самой реформой, писал, что там было 20 государственных и 17 частных амбаров. Зимой и летом в Столбцы шли транспорты с разнообразными товарами. В амбарах производились очистка льна и пеньки, для чего требовалось много работников».

Паводле дакументаў 1855-1860 гадоў на прыстані грузіліся наступныя тавары: жыта, мука жытняя, пшаніца, авёс, ячмень, гарох, грэчка, сала, пянька. Прыбывалі і выгружаліся: соль, селядцы, шампанскае і іншыя замежныя віны, фаянсавы і іншы посуд, цукар, перац і іншыя прадукты, бляха, свінец.

## Млыны

Чалавечая абыякавасць, ваеннае ліхалецце, час і прагрэс знішчылі вадзяныя млыны. Цяпер рэшткі плацін і старыя палі, якія тырчаць з вады, нагадваюць нам аб

існаванні на нашай зямлі гэтых старажытных збудаванняў. І калі ветраных млыноў захавалася некалькі, то вадзяных практычна не засталося. І мы ўжо ніколі не пачуем шуму вады, што падае на вадзяное кола, не возьмем у рукі цёплую, свежазмолатую муку, не ўдыхнём яе пах. З кожнай стратай наша культура становіцца бяднейшай.

У Стоўбцах будаваліся рознатыповыя млыны. На цяперашняй плошчы Бессмяротнасці на ўзгорку стаяў ветраны млын, які ў канцы 1920-х гадоў быў разбураны. На рацэ Адцэдцы ў вёсцы Задвор'е была запруда, вада цякла па драўляным латку на кола вадзянога млына. Ад яго засталіся толькі мураваныя сцены.

Па дарозе са Стоўбцаў на Акінчыцы быў драўляны шлюз. Вада з запруды праз шлюз па латку цякла на кола вадзянога млына Віткоўскага і далей трапляла ў рэчку Адцэдку, што ўпадала ў Нёман. Гэты млын быў драўляны і ў пачатку 1930-х гадоў згарэў.

У канцы цяперашняй вуліцы Гагарына разам з лесапілкай размяшчаўся паравы млын Кітаевіча. Паміж будынкам цяперашняй раённай бібліятэкі на рагу вуліцы Піянерскай і плошчы быў самы буйны паравы млын з кацельнаю Куртава.

Каля чыгуначнага пераезда на Акінчыцы таксама быў млын, будынак яго захаваўся, у ім цяпер размешчаны склад.

На ўсіх млынах малолі жыта, пшаніцу, ячмень, а таксама абдзіралі ячмень на крупы.

## Прыстані

Зімой на Нёмане народ адпачываў. Старажылы памятаюць Нёман, які звінеў песнямі. А што мы маем цяпер? Згарэлі ў ліхалецці вайны прыстані, прапалі лодкі. Заціх, змізарнеў бацька Нёман, не чуваць ні музыкі, ні песень. Засталося толькі свята Купалле. І пасля яго зноў цячэ наш Нёман сіратліва…

У канцы 1920-х і пачатку 1930-х гадоў на беразе Нёмана будаваліся прыстані. На правым беразе каля чыгуначнага моста была пабудавана драўляная прыстань чыгуначнікаў. На левым беразе каля драўлянага моста — вай-

Цяжка ўявіць чалавека без сувязяў з роднай зямлёй. Краязнаўства стала часткай майго жыцця. Прывіў мне гэтую любоў, падтрымаў у гэтай справе светлай памяці Анатоль Васілевіч Грэкаў, знакаміты наш стаўбцоўскі калекцыянер.

У 1990 годзе я скончыла Мінскі інстытут культуры. Прыйшла працаваць ў Стаўбцоўскую цэнтральную раённую бібліятэку. Мне даручылі «весці» краязнаўства. Прыступаючы да выканання абавязкаў, я і не думала, што яны мяне так захопяць, што прысвячу ім не толькі службовы, але і асабісты час.

Фотаздымкі выклікаюць вялікі інтарэс і маюць найвялікшую каштоўнасць. Многія будынкі, у тым ліку і архітэктурныя помнікі, не ўцалелі, аднак яны ёсць на старых фотаздымках!

Дакументы, якія мне адкрыліся, таксама бясцэнныя. Яны аднавілі падзеі, перажытыя стаўбчанамі і жыхарамі раёна. Звесткі з архіўных дакументаў папаўняліся сведкамі, якія, на жаль, ужо пайшлі з жыцця. Тамара Васілеўна Пярова, Эдуард Сяргеевіч і Аляксандра Худушыны, Раіса Сцяпанаўна Дзіянава, Марыя Іосіфаўна Явід з вёскі Астравы Стаўбцоўскага раёна. Хачу падзякаваць жыхарам Стоўбцаў Аркадзю Уладзіміравічу Змачынскаму, Людміле Аляксандраўне Баброўскай, Клаўдзіі Раманаўне Гарбачовай, бібліятэкарам Валянціне Васілеўне Буняк, Алене Ігараўне Гарановіч, Лідзіі Аляксандраўне Мазуркевіч, Людміле Іларыёнаўне Віцько, Марыі Іосіфаўне Мяцёлкінай, фатографу Аляксандру Пятрову, а таксама Аляксандру Міхайлавічу Гутоўскаму і іншым. Гэтыя людзі прынялі ўдзел у стварэнні архіва роднага краю, і архіў гэты з кожным годам набывае ўсё большую каштоўнасць, каб стаць дарагой спадчынай для нашчадкаў. Трэба паспець адшукаць, сабраць, запісаць.



Wyborowe nasiona traw.

Dobór nasion traw godnych polecenia do uprawy w naszym klimacie.

Rajgras angielski

34. Rajgras włoski

Rajgras Westerwoldzki

Rajgras francuski

27. Trawa kupkowa

Trawa miodowa

Wyklina łąkowa

Старонка з польскага сельскагаспадарчага часопіса 1935 года.




Паліцэйская прыстань.

сковая прыстань з цэглы; на другі бок — паліцэйская прыстань і далей двухпавярховая гарадская прыстань. На ўсіх прыстанях былі буфеты, залы-чытальні, зала для танцаў і іншых мерапрыемстваў. На кожнай — адна ці дзве мясцовыя байдаркі для водных прагулак.

У святочныя дні на прыстанях іграў духавы аркестр, пускалі рознакаляровыя ракеты, ладзіліся латарэі, праходзілі іншыя забаўляльныя мерапрыемствы. Не толькі моладзь, але і пажылыя людзі пасля працоўнага дня ішлі да Нёмана, каб адпачыць. На беразе ставіліся столікі з крэсламі, каб можна было пасядзець, паесці смачнага.

## Берагавая варта

Асабовы склад ваенізаванай аховы ў Стоўбцах размяшчаўся ў двухпавярховым доме па сучаснай вуліцы Першамайскай. У ліпені 1955 года начальнікам каманды прызначылі Аляксея Васілевіча Серабракова. Вось што ён расказваў: «У склад каманды ўваходзіла сямнаццаць чалавек. Наша задача была ахоўваць мост цераз Нёман на дарозе ў бок вёскі Дразды. На ўзбраенні ў нас былі вінтоўкі, аўтаматы, наганы. Аб’ект ахоўвалі круглыя суткі, змену каравулаў праводзілі праз кожныя чатыры гадзіны. На мосце былі чатыры блок-пасты, у распараджэнні — чатыры вартавыя сабакі. Адзенне — табельнае: кажух, валёнкі, паліто, фуражка, шкарпэткі, боты і анучы. Забяспечвалі ўсім неабходным. У атрадзе быў спецыяльны пітомнік, дзе вырошчвалі шчанят, якіх потым трэніравалі. Выдаваліся касцюмы для дрэсіроўкі. Кармілі сабак два разы на суткі: раніцай і ўвечары. Давалі тлустае мяса, якое бралі з мясакамбіната. Куплялі крупы, аўсянку, проса. Трэніроўкі былі кожны дзень па 20—30 хвілін».

У маі 1974 года ахова была знята. Сабак аддалі ў іншыя каманды. Цяпер ахоўваецца толькі чыгуначны мост.



Найдзёнавіцкі ліцейны завод.

## Пошта

Пошта ў Стоўбцах знаходзілася ў доме 43 па сённяшняй вуліцы Ленінскай. Уваход у пошту быў не на ўзроўні вонкавай сцяны, а ў глыбіні будынка. Там знаходзіўся паштовы аддзел, у тым ліку і аддзел падпіскі на часопісы і газеты. Жыхары, у асноўным, выпісвалі газету «Кур'ер штодзённы». Тут жа можна было набыць, запоўніць і адаслаць паштоўкі.

Работа на пошце вялася штодзённа. Карэспандэнцыю паштальёны разносілі спраўна. Нават у вялікія святы затрымак з дастаўкай не было. Супрацоўнікі пошты насілі форму з прафесійнымі адзнакамі.

## Ліцейны завод у Найдзёнавічах

Ліццё чыгуноў было звычайнай летняй справай. Расплаўлены ў печах метал залівалі ў форму. Калі ён астываў і цвярдзеў, выраб з формы вымалі і апрацоўвалі-шліфавалі. Асаблівых тэхнічных прылад не было, шмат што рабілі ўручную. Гэта было няпроста, патрабавалася не толькі дакладнасць выканання механічнай работы, але і знаходлівасць, кемлівасць. Затое па чыгуны ўтвараліся чэргі. Прадавалі іх мясцовым жыхарам, грошы арцель здавала ў дзяржаўную касу.

Зімою рабілі валёнкі. Як было ў той час — ды без валёнак? «Вецер злосны, ледзяны. Ёсць валёначкі! Яны абагрэюць у мароз люты, ты шчаслівы, як абуты. Кружаўныя, распісныя — у модзе валёначкі любыя.» Асобным працэсам было мастацкае аздабленне валёнкаў, якое выконвалася па жаданні заказчыка. Нанесці фарбу, прыгожы малюнак — гэта справа густу і майстэрства. Дарэчы,валенне валёнак, асабліва дзіцячых, бытуе ў вёсках і ў наш час. Майстры-валюшнікі вырабляюць абутак з захаваннем традыцыйных тэхналогій.

Майстэрню ў Найдзёнавічах закрылі ў 1950-я гады, а памяць пра яе засталася да сёння. Мо ў вяскоўцаў нават захаваліся тыя адмысловыя вырабы?

Святлана Адамовіч

*02.09.16*

*Паважаная рэдакцыя часопіса «Бярозка». Дасылаю Вам навуковую работу пра паходжанне назваў вёсак і ўрочышчаў, дарог і прасек паўночнай часткі Белавежскай пушчы, падрыхтаваную ў час летніх канікул.*

З удзячнасцю
Лізавета Саевіч
8 «А» клас, гімназія № 29, Мінск

# Па суседстве з вёскай Броўск,

## або Навуковая работа пра паходжанне назваў вёсак і ўрочышчаў, дарог і прасек паўночнай часткі Белавежскай пушчы

**Сёлета, як і летась, я вывучала на летніх канікулах паходжанне назваў вёсак і ўрочышчаў, дарог і прасек Белавежскай пушчы. Ранейшыя даследаванні былі прысвечаны паўднёвай частцы Нацыянальнага парка і ўжо апублікаваны. Выканаць гэтую работу мне дапамог ляснічы Броўскага (самага паўночнага) лясніцтва Белавежскай пушчы Барэль Яўген Іванавіч, які ўсё жыццё працаваў у гэтых мясцінах і з'яўляецца знаўцам гісторыі пушчы. Аб тапонімах мне расказваў і ўраджэнец вёскі Дзітаветчына, мой дзядзька і хросны бацька, ляснічы Ясеньскага лясніцтва Слабада Сяргей Паўлавіч, а таксама жыхары названых ніжэй вёсак.**



Як вядома, вёскі вакол Белавежскай пушчы ўзнікалі ў розныя часы. Так, вёска Броўск паўстала яшчэ ў царскія часы для правядзення царскіх паляванняў, калі там вадзілася шмат дзічыны. Па адной з версій, назва Броўск узнікла ад таго, што вёска размешчана на ўскрайку Белавежскай пушчы — на «броўцы». Па іншай версіі — ад слова «бровар», таму што там з бярosты выраблялі дзёгаць.

У квартале 20 ёсць урочышча Варонін бор, дзе раслі вялізныя ліпы, на якіх жыла цэлая калонія варон.

У квартале 44 урочышча Казіны рог. Гэта вялікая града, якая, калі на яе глядзець з вышыні, нагадвае галаву казла.

















Паміж кварталамі 13 і 14 знаходзіцца ўрочышча Вараб'ёў груд. На гэтым груду расце велізарны сасновы лес, а па яго баках — гразкія альшанікі. Урочышча ўяўляе сабой грудок, размешчаны на плошчы прыкладна каля двух гектараў. Магчыма, ён утварыўся з-за наносу пяску або ўспушвання зямной паверхні, а яго назва з'явілася дзякуючы вераб'ям, якія сустракаліся на гэтым урочышчы каля паселішчаў чалавека.

У кварталах 232—233 — Кісялёва горка з кар'ерам для здабычы будаўнічага жвіру. У часы, калі Белавежская пушча належала Польшчы, гэты жвір прадавалі на бетонныя колы для калодзежаў і на падмуркі будынкаў. Назва, верагодна, адбылася ад таго, што ўладальнікам гэтага кар'ера быў чалавек з прозвішчам Кісялёў.

Каля Якушоўкі ёсць урочышча Нога, дзе ў мінулым пражывала вельмі багатая яўрэйка па прозвішчы Нога. У квартале 355 растуць старыя ліпы, якія таксама належалі гэтай жанчыне. Ёсць павер'е, што там закапаны скарб, які па гэты дзень шукаюць археолагі.

У квартале 399, што пад Папялёвам, знаходзіцца ўрочышча Молатаў багон. Верагодна, там, на лясным кардоне пражываў ляснік з падобным прозвішчам (Молат, Малаткоў).

У квартале 136 — Елісееў бугор. Туды ў Дзень пагранічніка прыносяць вянкі, бо там у пасляваенны мірны час адзін пагранічнік па неасцярожнасці застрэліў другога пагранічніка, якога або Елісеем звалі або прозвішча яго было Елісееў.

Па расказах лесніка-старажыла Кузьміцкага, ва ўрочышчы Вароні бор таксама ёсць магіла салдата, які загінуў ад кулі саслужыўца. А было так: паслалі пагранічнікаў на стрэльбішча, там былы франтавік двойчы не трапіў у мішэнь. Малады салдат, які стаяў каля яго, сказаў: «Як ты, франтавік, немцаў страляў, калі па мішэні не трапляеш?» Франтавік павярнуўся і кажа: «А вось так я немцаў біў» — і стрэліў.

Ёсць яшчэ ўрочышча Гарбач, дзе ў далёкія часы працаваў знакаміты лекар з прозвішчам Бітнер. Ён збіраў лекавыя расліны, рабіў з іх лекавыя настоі, якімі лячыў мясцовых жыхароў. Нават і сёння карыстаюцца тымі рэцэптамі. Да з'яўлення ў гэтых месцах лекара Бітнера, на думку мясцовага насельніцтва, яго папярэднікам быў іншы лекар — па прозвішчы Гарбач, у гонар якога і было названа ўрочышча. Яго вопыт і цяпер выкарыстоўвае мясцовае насельніцтва.

У мястэчку Якушоўка была сядзіба Канстанціна Каліноўскага. Падмурак ад яго дома добра захаваўся і блішчыць, як мармуровы помнік нашаму свабодалюбіваму земляку. Яго бацька пабудаваў у Якушоўцы царкву, аднак вёска названа па прозвішчы першага яе жыхара.






Пушчанская вёска Раманаўцы названа так таму, што большасць яе жыхароў насіла прозвішча Раманоўскі. Каля вёскі ў квартале 25 знаходзіцца Раманоўскае возера плошчай 24 гектары. Цяпер гэта месца платнай рыбалкі. Возера з такой самай назвай ёсць ва ўрочышчы Чорныя лозы. З'явілася яно на тэрыторыі распрацоўкі торфу. У ліку водных аб'ектаў Белавежскай пушчы ў квартале 3 ёсць так званы Чортаў роў. Канал прарыты да рэчкі Калонкі, якая сілкуецца вадой з крынічкі. Назва рэчкі з'явілася ад таго, што яна як быццам выцякае з калонкі. А канал назвалі Чортавым ровам у сувязі з тым, што ён быў глыбокім і цяжкім пры пераходзе або пераездзе. Людзі, пераадольваючы перашкоду, са злосці прамаўлялі словы «гэты чортаў роў!», што і паслужыла яго назве. Лясная рэчка Калонка дала назву вёсцы Каланая, якая размясцілася на яе берагах.

Вёску Тушамля назвалі ў сувязі з тым, што падчас падрыхтоўкі да Грунвальдскай бітвы князь Ягайла са сваім атрадам нарыхтоўваў у Белавежскай пушчы мяса дзікіх жывёл. У гэтай вёсцы мяса тушылі і закладвалі ў бочкі для працяглага захоўвання. Рэчка, якая працякае каля Тушамлі, называецца Тушамлянкай.

А вось у вёсцы Дабраволя акрамя таго, што тут не было прыгоннага права, жылі вельмі добрыя людзі. Прыезджыя купцы казалі, што ў гэтай вёсцы нікога не пакрыўдзяць, і ў ёй спакойна можна спыніцца на начлег, чаго не скажаш пра вёску Ліхасельцы, у якой могуць прыезджых пабіць або абрабаваць «ліхія людзі».




У квартале 1094, які параўнальна нядаўна ўвайшоў у склад Белавежскай пушчы, ёсць урочышча Сакалова, дзе ў старажытнасці вадзілася шмат драпежных птушак сямейства сакаліных.

У Белавежскай пушчы шмат дарог, якія звязваюць вёскі нашай краіны з Польшчай. Так вёску Дабраволя звязвае з вёскай Рукаў на польскім баку дарога, якую называюць Рукаўскай. Яна праходзіць праз кварталы 67 і 48, 44 і 45.

Дарогу, якая праходзіць праз кварталы 13, 14, 15, назвалі Шыфернай, таму што раней па яе ходзе знаходзілася вытворчасць будаўнічага шыферу.

Дарогу, размешчаную ў кварталах 293, 294 у напрамку вёскі Ціхаволя, назвалі дарогай на Кончык, бо там заканчваецца Брэсцкая вобласць і пачынаецца Гродзенская.

У кварталах 66 і 67 знаходзіцца ўрочышча Княгіня, якое пры цары належала княгіні.




Урочышча Сачкава гаёўка назвалі так таму, што ў ім пражываў ляснічы Сачко (68 квартал). У ім знаходзіцца крынічка, якая не замярзае нават у самыя моцныя маразы.

Сярод пушчанскіх лясоў размешчана вёска Рудня, дзе ў далёкім мінулым здабывалі руду.

Найменню ўрочышча Ашчэп, дзе была пабудавана сядзіба Ашчэпскага лясніцтва, паслужыла расчэпленае маланкай дрэва. Цяпер там пражывае толькі дзве сям'і, а раней яшчэ пражываў мой стрыечны дзядуля Тарасевіч Мікалай Мікалаевіч, які там працаваў на пасадзе памочніка ляснічага Ашчэпскага лясніцтва.

Вёска Боркі ўзнікла ў сасновым бары. Гэта вельмі перспектыўная вёска, бо яна размешчана каля ракі Нараў на ўрадлівых землях (187, 196, 206 кварталы).

У час Вялікай Айчыннай вайны ў кварталах 3 і 4 размяшчаліся партызанскія зямлянкі, якія фашысты не змаглі выявіць.


























У вёсцы Жаркаўшчына ў кварталах 58, 76 стаіць дом графа Тышкевіча. Раней там было два дамы, паміж якімі ішоў падземны ход працяглацю прыкладна 200 метраў. Назва вёскі, магчыма, звязана з вытворчасцю, выпальваннем вугалю ці здабычай смалы, якая патрабуе прымянення жару (вуглёў). Падчас вайны ў гэтым месцы асеў немец, які пабудаваў цэх па выпуску фанеры. Той немец вылучаўся асаблівай патрабавальнасцю. Калі ўбачыць, што ў беларуса-рамізніка брудны конь, так і ўдарыць яго нагайкай. Але працавітых людзей ён не крыўдзіў. Калі ў сям'і рабочага нараджалася дзіця, ён на другі дзень пасля нараджэння ставіў яго на забеспячэнне, што было вельмі важна для выжывання ў вайну.

У царскія часы існавалі маленькія пушчанскія вёсачкі Пескі і Яловікі. Вёска Пескі была названа так таму, што размяшчалася на пясчаных глебах, а вёска Яловік прымыкала да яловага лесу. Паколькі землі былі слабаўрадлівыя (пясчаныя і забалочаныя), жыхары гэтых вёсак перасяліліся ў Свіслацкі раён пасля выдзялення ім адпаведных льгот, якія прадстаўляліся перасяленцам. Цяпер мясцовасць, якую раней займалі вёскі Пескі і Яловікі, засаджана лесам і ўваходзіць у склад Белавежскай пушчы (кварталы 116 і 116а).

У вёсцы Язвіны (91 квартал) нарадзіўся будучы ляснічы Белалясоцкага лясніцтва Лукша Яўген Уладзіміравіч, які цяпер на пенсіі. На яго думку, слова Язвіны сугучнае слову яцвягі. Яцвягі заснавалі гэтую вёску на беразе ракі Немяржанкі — прытока ракі Нараў. Гэтая вёска спыніла сваё існаванне, зарасла лесам.

У апошнія гады ў многіх маладых людзей з'явілася жаданне ўзяць участак для будаўніцтва дома ў Белавежскай пушчы. Так вёска Ясень за апошнія два гады папоўнілася дзесяццю новымі сядзібамі. Мой старэйшы брат Фёдар пасля заканчэння магістратуры лесагаспадарчага факультэта Беларускага дзяржаўнага тэхналагічнага ўніверсітэта таксама паехаў жыць у вёску Ясень і працаваць навуковым супрацоўнікам навуковага аддзела Дзяржаўнай прыродаахоўнай установы Нацыянальны парк «Белавежская пушча». Я з маімі малодшымі братамі Платонам і Валодзем таксама люблю на канікулах прыязджаць з Мінска ў вёску Ясень. У нас з'явілася надзея, што ўсе памерлыя вёсачкі з такімі дзіўнымі назвамі і ў такіх цудоўных мясцінах будуць адноўлены будучымі пакаленнямі.

# Расшыфруем коды паэта

## «Цунамі» Аркадзя Куляшова

Адкрываю кнігу са збору твораў Аркадзя Куляшова ў зале беларускай літаратуры нашай Нацыянальнай бібліятэкі. Першае, што трапляецца на вочы: кніга была пашкоджана. Але клапатлівыя рукі бібліятэкара аднавілі, рэанімавалі хворую. Раней у бібліятэках не было ксераксаў, таму чытачы, каб не перапісваць патрэбныя ім кавалкі, проста выдзіралі старонкі. Гэтая кніга страціла старонкі з паэмай «Цунамі».

Многія скажуць, што Аркадзь Куляшоў — паэт савецкага перыяду, пісаў пра вайну. Сапраўды, паэма «Сцяг брыгады» — значны ўклад у развіццё савецкай літаратуры. Але менавіта гэты паэт стварыў паэму «Цунамі» (1968), «коды» якой працягваюць расшыфроўваць. Многія крытыкі сцвярджаюць, што яна яшчэ як след не прачытана. Быццам у паэме закладзена тое, што дазволіць людзям знайсці адказы на многія пытанні, якія іх хвалююць.

Увогуле, гэта гісторыя кахання. Маладыя закаханыя адпраўляюцца ў рамантычную кругасветную вандроўку на саматробнай пірозе (лодцы). Што іх напаткае ў бязмежным акіяне? Яны збіраюцца знайсці шчасце, адмовіўшыся ад усіх даброт, якія дае цывілізацыя.

**Цікавостка**

*Паводле паэмы «Цунамі» ў 2014 годзе Беларускай дзяржаўнай філармоніяй быў пастаўлены монаспектакль у выкананні знакамітай актрысы, уладальніцы медаля Францыска Скарыны Зінаіды Феакціставай-Каладзяжнай.*

Ім не трэба дапамога
Забытых імі вырабаў зямлі…

Вы думаеце, людзі цяпер не імкнуцца да такога жыцця? Не мараць зліцца з прыродай? Вось вам прыклад. Недалёка ад Валожына створаны «Шанці дом» — эка-маёнтак. Адным з прынцыпаў кіраўнікоў дома з'яўляецца памяншэнне выкарыстання неэкалагічных матэрыялаў. Як і героі паэмы, маладыя людзі «Шанці дома» спрабуюць адмовіцца ад бытавой тэхнікі, а замест мыла выкарыстоўваюць попел. І ў гэты дом ахвотна прыязджае моладзь — каб зліцца з прыродай.

Вам хочацца быць вольнымі, як рыба
Між акіянных хваль…

Вы ў гэтым шчасце бачыце, а хіба
Дасягнутае шчасце — не палон?

Да чаго імкнецца чалавек? Да безумоўнага шчасця. Але ці будзе ён гатовы спыніцца на гэтым, не патрабаваць большага? На самай справе людзі ніколі не спыняюцца на дасягнутым, ім заўсёды хочацца больш. У гэтым чалавечая сутнасць.



Прайшло паўгода, цэлы год ці пяць…
Па добрай волі і сумеснай згодзе,
Да часу першабытнага плылі.

Сапраўды, калі б не XX стагоддзе, яны маглі быць шчаслівымі ўдвух.

А ветразі дванаццатага веку
Сустрэчным ветрам век дваццаты рве.

Магчыма, аўтар хацеў звярнуць увагу на «кругазварот» гісторыі. Бо ў эпілогу да паэмы сустракаем нейкіх герояў, але выразна не бачым іх аблічча. Хто яны? Магчыма, ужо патомкі тых, што адправіліся ў вандроўку. За гэтым бачацца сувязі вякоў.

XX стагоддзе герояў не абмінула. На даляглядзе яны ўбачылі выбуховы ядзерны грыб. Твор напісаны ў 1968 годзе, але ці мог аўтар у тыя часы прадбачыць трагедыю, якая адбудзецца праз васямнаццаць гадоў? Сёлета спаўняецца трыдзесяці годдзі з часу катастрофы на Чарнобыльскай АЭС. Яе вынікі закранулі многія краіны, а для Беларусі яна стала нацыянальнай экалагічнай трагедыяй. Як многія пісьменнікі-фантасты ў свой час прыдумалі рэчы, якія існуюць цяпер — лазеры, планшэты, слухаўкі, нанаробатаў і г. д., — так Аркадзь Куляшоў прадбачыў экалагічную катастрофу.

У канцы паэмы да героя завітала незнаёмка. Хто такая? Выказваюць думку, што гэта Радыяцыя, якая прыйшла па героя. Бо пасля выбуху нарадзілася дзіця, якое не змагло выжыць. Забірае незнаёмка і мужчыну. А можа, гэта Прырода, Цывілізацыя, якая кліча вярнуцца? Як я напісала раней, многія коды паэмы расшыфраваны не да канца…

## Слоўнік

**Лічыльнік Гейгера** — дэтэктар ядзернага выпраменьвання радыеактыўных часціц.

**Транзістар** — сеткавы радыёпрыёмнік, які ўяўляе сабой просты дынамік.

Мы вось задумваемся, чым адрозніваюцца мужчына і жанчына. Яны як істоты з розных планет. Магчыма, вы ведаеце кнігу Джона Грэя «Мужчыны з Марса, жанчыны з Венеры». Так і героі паэмы — паблукаўшы па свеце, перастаюць разумець адно аднаго. Жанчына ўжо па-іншаму глядзіць на жыццё.

Яе не цешыць болей існаванне
Бяздумнае на ўлонні хваль сівых…

А мужчына працягвае жыць тымі марамі пра жыццё, якія будаваў ён разам з каханай. Яна імкнецца наперад, хоча жыць напоўніцу радасцямі і клопатамі, будаваць сям'ю. А яе абраннік застаецца ў сваёй «шкарлупіне». У выніку, згубіўшы дзіця, пасля цунамі, якое разбівае іх сумеснае жыццё, яна… знікае. Пакідае толькі люстэрка.

Вось вам новыя загадкі: што нясуць гэтыя вобразы — цунамі і люстэрка?

Таццяна Лаўрык

**Ад рэдакцыі.** Прапануем чытачу прачытаць паэму, запісаць свае разважанні і прыслаць нам. Як заўсёды аўтараў чакаюць падарункі.

# «Росмэн» ці «Махаон»?

Папулярная серыя кніг пра хлопчыка-чараўніка Гары Потэра мае мноства прыхільнікаў. Але ёсць людзі, якія толькі збіраюцца з ім пазнаёміцца. У іх узнікае пытанне: а ў якім перакладзе чытаць будзе лепш?

Калі ў выдавецтве «Росмэн» яшчэ толькі пачалі перакладаць кнігі пра Гары Потэра, цыкл ужо стаў міжнародным бестселерам. Верагодна, у «Росмэне» асцерагалася, што серыя праваліцца, інакш немагчыма растлумачыць, чаму для перакладу кніг не былі прыцягнутыя лепшыя сілы. Але па-англійску чытае шмат людзей, і з гэтай нагоды ў інтэрнэце пачалі з'яўляцца фанацкія пераклады. Адзін з такіх — варыянт Марыі Співак. Папулярнасць Джаан Роўлінг расла, пачалі ўжо здымаць фільмы, а Співак працягвала перакладаць кнігі…

Калі гаворка пайшла аб перавыданнях, асаблівай шуміхі не было. Да таго часу, пакуль фанаты не ўбачылі пераклады Марыі Співак. Справа ў тым, што калі правы на выданне патэрыяны перайшлі да выдавецтва «Махаон», яно выкарыстала менавіта варыянт згаданай перакладчыцы. Зразумела, не версіі з сеціва, а ўдасканаленыя. Але ж тэксты Співак былі для ўсіх «чужымі».

Галоўны недахоп перакладаў жанру фэнтэзі — пераклад уласных імёнаў і шэрагу назваў. «Гары Потэр» не стаў выключэннем. Першы час менавіта з-за гэтага і не любілі пераклады выдавецтва «Росмэн». Напрыклад, факультэты *Когтевран, Пуффендуй,* галоўны злодзей *Лорд Волан-де-Морт, Северус Снегг, Тисовая улица* і іншыя ўласныя імёны ў арыгінале гучаць крыху інакш — *Равенкло, Хаффлпафф, Снейп, Вальдеморт* і г. д. Пераклад ад «Махаона» ўтрымлівае яшчэ больш перакручаныя словы, імёны: *Дубльдум, Злодеус, Вальдеморт, Огрид, Месяц Психуа, праф. Самагонный, Шизоглаз, мугл, квидиш* і іншае. Калі ў першых кнігах цыкла «гаворачыя» імёны больш-менш падыходзілі, у наступных — іх дзіцячая скіраванасць выглядала празмернай. Дарэчы, hog — гэта япрук, а wart — барадаўка. Добра што Співак пазбегла *«школы Свинопрыщ»*.

Аднак калі забыцца на імёны і тэрміны, астатнія прэтэнзіі да перакладаў Співак проста неаргументаваныя, бо яна зразумела сутнасць патэрыяны. Часта перакладчыцу папракаюць у залішнім арыентаванні на дзіцячую аўдыторыю, але ж цыкл і напісаны галоўным чынам для дзяцей! «Гары Потэр» перш за ўсё займальная казка з сэнсам. Менавіта аўтарскай магіі і не хапае росмэнаўскаму перакладу. Над ім працавалі сур'ёзныя людзі, якія рабілі гэта прафесійна і адказна. Але не больш за тое. Пераклады ж Марыі Співак больш цэльныя. Ад першага да апошняга слова серыі перакладам займаўся адзін чалавек, які быў шчыра захоплены арыгіналам і працаваў ад душы. А гэта мае значэнне.

«Росмэн» ці «Махаон»? Google вам не дапаможа. У кожным перакладзе свае недахопы. Галоўнае, каб перакладзеная кніга чыталася свабодна, перадавала асаблівасці характараў і гаворкі персанажаў, як у арыгінале, каб адчуваўся аўтарскі стыль. Ідэальным сімбіёзам быў бы пераклад ад «Махаона» з імёнамі «Росмэн». І фанаты былі б задаволены. Аднак калі вы хочаце пазнаёміцца з сапраўдным «Гары Потэрам», прачытайце арыгінал. Вы не пашкадуеце.

Марыя Шчыпанава

У выпуску:


| | |
|---|---|
| ВЫВЯДЫ | **Сітуацыя «голага караля» або кансерватыўная адукацыя** |
| Я ВЕДАЮ МАСТАЦТВА | **Параўнай плады і дыню** |
| Я ВЕДАЮ МАСТАЦТВА | **Прарыў у выяўленчым мастацтве, які ты возьмеш на ўзбраенне** |
| З НАТУРЫ | **Будуем куб** |


Я — МАСТАК
№ 10

ВывЯды

# Сітуацыя «голага караля» або кансерватыўная адукацыя



Аляксандр Шантаровіч.

Карэспандэнт часопіса «Бярозка» пагутарыла з дырэктарам Мінскага дзяржаўнага мастацкага каледжа імя А.К. Глебава Аляксандрам Валер'евічам Шантаровічам пра падыходы, нюансы, магчымасці і іх рэалізацыю, міжнароднае супрацоўніцтва і развіццё «на месцы».

**— Скажыце, калі ласка, чым адрозніваецца ваш каледж ад іншых навучальных установ з мастацкім ухілам нашай краіны.**

— Канешне, я заўсёды ўсім кажу, што мы лепшыя. Мы найстарэйшыя. Амаль што ўсе народныя мастакі — нашы выпускнікі: Савіцкі, Шчамялёў, Данцыг і іншыя. І гэты бэкграўнд важны для мастацкай школы. Пры гэтым мы не адпачываем на лаўрах, а ідзём далей — шукаем новыя падыходы да адукацыі.

Сёлета выйгралі грант ЮНЕСКА — стварылі праект, прысвечаны 500-годдзю кнігадрукавання, на рэалізацыю якога ЮНЕСКА выдзеліць нашаму каледжу частковае фінансаванне.

Зразумела, што тыя маладыя людзі, якія да нас прыходзяць цяпер, зусім не падобныя на тых, якія прыходзілі 7—10 гадоў таму.

Мы працуем на тое, каб да нас паступалі дзеці, якія сур'ёзна ставяцца да свайго выбару. У нас праводзяцца падрыхтоўчыя курсы, заняткі якіх разлічаны на ўвесь навучальны год. За адзін месяц перад уступнымі экзаменамі праходзяць інтэнсіўныя падрыхтоўчыя курсы. На працягу навучальнага года выкладчыкі каледжа



Аляксандр Шантаровіч з выпускнікамі 2016 года.




В. Навіцкая. Тыдзень дызайну, 2015.



В. Навіцкая. Тыдзень дызайну, 2015.

праводзяць 4—5 майстар-класаў, на якія запрашаюцца вучні з усёй краіны. Падчас майстар-класаў удзельнікі атрымліваюць неабходныя звесткі пра тое, што трэба ведаць, умець. Пасля майстар-класаў абавязкова праводзяцца прагляды работ, дзе кожны ўдзельнік можа пачуць слушныя заўвагі і парады наконт сваёй работы.

Шэсць гадоў таму мы арганізавалі конкурс, які стаў міжнародным, — «Красаweek». У гэтым конкурсе прымаюць удзел падлеткі з амаль 15 краін. Канешне, большасць удзельнікаў — вучні беларускіх школ. Удзел у конкурсе дапамагае нам заўважыць і весці далей тых, хто найлепш праявіў свае мастацкія здольнасці.

Мастацкая адукацыя ў нас даволі кансерватыўная. Асноўныя прынцыпы адукацыі засталіся нязменнымі і сёння. Гэтым наша мастацкая школа адрозніваецца ад заходнееўрапейскай. Там змяніліся падыходы. У заходнееўрапейскай мастацкай школе схіляюцца да агульнатворчага: рабі тое, што ў цябе на душы, не губляючы час на акадэмічныя рэчы, на адпрацоўку тэхнікі малюнка, на вывучэнне закона аб кампазіцыі і г. д. Мне здаецца, што наша школа займае больш разумныя пазіцыі, таму што спалучае дзве плыні — акадэмічнасць і развіццё творчасці, самастойнасці. Навучанне па кожнай спецыяльнасці мы пачынаем з акадэмічных падыходаў: малюнак, жывапіс, кампазіцыя. І на працягу ўсіх чатырох гадоў незалежна ад спецыяльнасці гэтыя дысцыпліны вывучаюцца даволі сур'ёзна. Пры гэтым мы ўводзім для ўсіх вывучэнне розных графічных пакетаў камп'ютарных праграм і як абавязковую дысцыпліну, і як факультатыўную, бо сёння гэта патрэбна і мастаку, і дызайнеру, і скульптару, і майстру па дрэве.

**— Калі гаварыць пра конкурс «Красаweek», то цікава было б даведацца, як атрымалася зацікавіць ва ўдзеле даволі шмат замежнікаў?**

— Я думаю, дзякуючы і таму, што нам дапамагаюць вашы калегі. Пра нас пішуць, здымаюць відэаролікі, расказваюць на тэлебачанні і радыё. Мы працуем з рознымі дыпламатычнымі ўстановамі. На гэтыя кантакты ідзём наўмысна, разумеючы, што чым больш пра нас пачуюць, тым больш маладых людзей пра нас будзе ведаць. Канешне, мы рассылаем інфармацыю пра конкурс па розных навучальных установах. Інтэрнэт дазваляе сёння знайсці сабе кампаньёнаў у любой краіне. Мы сябруем з грамадскай арганізацыяй «Беларускі зялёны крыж», яны таксама арганізуюць

дзіцячыя міжнародныя конкурсы. Усюды, дзе бываем, абменьваемся інфармацыяй.

**— Ці можа існаваць мастацкая адукацыя без акадэмічных дысцыплін?**

— Можа. І прыкладаў таму досыць, калі гаварыць пра заходнюю школу. Нашы выпускнікі часта паступаюць у Польшчу, Чэхію, Славакію, Германію, Італію, Англію, Нідэрланды. Дзесьці я бываў сам, кудысьці мы выязджалі разам з навучэнцамі. Дзеці расказваюць, што на занятках па малюнку ў іх за спінай збіраецца натоўп студэнтаў, якія назіраюць, як пішуць нашы навучэнцы, менавіта так — з акадэмічным падыходам, таму што ў іх гэтага няма. Другі момант: мы апошнія некалькі гадоў цесна супрацоўнічаем з адной з польскіх мастацкіх школ. Калі мы першы раз сустрэліся з кіраўніцтвам школы, адчуваўся пэўны скепсіс, але калі польскія калегі пачалі гартаць нашы каталогі і ўбачылі, як мы працуем, то ў іх вачах чыталася «мы з вамі сябруем і працуем». Вучыць можна, і бываюць цікавыя вынікі, калі гаворка ідзе пра сучаснае актуальнае мастацтва. Нават калі казаць пра сучасныя падыходы ў мастацтве, то для чалавека, які працуе на аснове добрай цвёрдай акадэмічнай школы, вынік заўсёды глыбейшы і цікавейшы, чым калі гэтай школы няма. Сёння назіраецца сітуацыя «голага караля». Калі чалавек проста выкідвае свае эмоцыі на палатно. Выглядае гэта вельмі эмацыянальна, але не заўсёды пісьменна, не заўсёды эстэтычна. Бо можна абуджаць розныя эмоцыі. Негатыўныя закрануць лягчэй, чым спрацаваць на пазітыве.

**— Як вы ставіцеся да эксперыментаў сваіх студэнтаў?**

— Добра. Майстэрства выкладчыка — не навязаць сваё бачанне, свае падыходы, вышэйшы клас — гэта ўменне ўбачыць індывідуальнасць навучэнца, падтрымаць і развіць яе.

**— Што вы робіце, калі падчас работы з навучэнцам заўважаеце, што ён выбраў не свой кірунак?**

— Калі бачым, што ў навучэнца ёсць схільнасці да іншага кірунку і ён зможа адолець праграму іншай спецыяльнасці, пераводзім. Вядома, мы такое робім не бяздумна — глядзім, аналізуем, улічваем меркаванні навучэнца, выкладчыкаў і бацькоў.

Такое бывае не часта, але бывае.



І. Януш. «Кароль і блазан», 2011.



І. Стрэльскі. «Верхні горад», 2015.



А. Шаппо. «Прытча аб рыбаках», 2001.

**— Якія навучальныя ўстановы вы лічыце флагманамі ў мастацкай сферы?**

Большасць выкладчыкаў каледжа — выпускнікі Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў. Безумоўна, БДАМ з'яўляецца прыярытэтнай установай адукацыі для нашых выпускнікоў.

Акрамя таго, яны штогод спрабуюць штурмаваць ВНУ Расіі: Санкт-Пецярбургскі дзяржаўны акадэмічны інстытут жывапісу, скульптуры і архітэктуры імя І.Я. Рэпіна, Санкт-Пецярбургскую дзяржаўную мастацка-прамысловую акадэмію імя А.Л. Шчігліца. Едуць у Варшаву і Прагу. Мне здаецца, што ўвогуле нельга казаць пра флагман, таму што кожная мастацкая школа мае сваю індывідуальнасць. Бо калі гэта старая мастацкая школа, у яе ёсць свае традыцыйныя падыходы. Напрыклад, каб паступаць да нас, трэба рыхтавацца менавіта да нас, таму што ёсць свае патрабаванні, сваё бачанне таго, што добра, што трэба, што лепш, што павінна быць больш развіта ў нашых абітурыентаў. Пры агульных падыходах ёсць нюансы — і гэта выдатна. Навучальныя ўстановы павінны адрозніваецца, навошта нам рыхтаваць аднолькава. Тым і цікавая сфера мастацтва.

**— Як вы лічыце, у якіх зменах мае патрэбу мастацкая адукацыя ў Беларусі?**

— Самая галоўная патрэба — нашы навучэнцы. Як бы не складвалася сітуацыя, фінансавая перш за ўсё, ахвотныя ў нас вучыцца заўсёды знаходзяцца. Некаторыя да нас паступаюць некалькі гадоў запар. З-за таго, што да нас можна паступіць толькі пасля 9 класаў, не ідуць вучыцца далей, каб не атрымаць сярэднюю адукацыю і каб мець магчымасць да нас яшчэ раз прыйсці на ўступныя іспыты.

Ёсць навучэнцы, за работай якіх я назіраю і за якіх перажываю: а што далей? Вось цяпер яны ў нас у цяплічных умовах. Хтосьці прыходзіць у 8 раніцы і немагчыма яго выгнаць да 20 гадзін. Такім бы, як у царскія часы, мецэната, які б павёў. Таму што, праўда, ёсць навучэнцы, з якіх маглі б атрымацца проста суперзоркі, але ім патрэбна падтрымка, і фінансавая ў тым ліку.

Не хапае больш жорсткага падыходу, у гэтым выпадку з боку дзяржавы, бо яна ў нас рэгулюе і рэгламентуе, наколькі ўзровень адукацыі і выкладання адпавядаюць той спецыяльнасці і кваліфікацыі, што заяўлены ў той ці іншай установе. Павінен быць больш жорсткі падыход да магчымасці адкрыцця нашых спецыяльнасцяў у няпрофільных установах адукацыі.

На жаль, у краіне засталіся тры сярэднія спецыяльныя навучальныя ўстановы, якія рыхтуюць жывапісцаў: Мінскі дзяржаўны мастацкі каледж імя А.К. Глебава, Гімназія-каледж мастацтваў імя І.В. Ахрэмчыка і Гомельскі дзяржаўны мастацкі каледж. Толькі ў дзвюх з іх займаюцца скульптурай. І пераважная большасць, па-мойму, каля 30 навучальных устаноў ажыццяўляюць падрыхтоўку па спецыяльнасці «Дызайн». Пры гэтым ёсць месцы, дзе настолькі адсутнічае база і школа, што гаварыць пра падрыхтоўку дызайнераў не прыходзіцца. І гэта сумна, бо зацікаўленыя спецыяльнасцю «Дызайн», маладыя людзі атрымліваюць дыплом, які не вытрымлівае крытыкі. Такога трэба пазбягаць, каб трымаць марку.

Са спецыялістамі сёння складана. Часта дэбатуюцца роля і месца выкладчыка ў нашым грамадстве. Каб падрыхтаваць мастака, які думае, шмат трэба ў яго ўкласці. А людзей, якія б хацелі гэтым займацца па-сапраўднаму, вельмі мала. Любая галіна трымаецца на адукацыі, а адукацыя — на настаўніках.

Юля Ваўчок

# Параўнай плады і дыню

## Тыпажы Івана Хруцкага


Плады і дыня.


Плады і свечка.

Зірні, дружа, на карціны Івана Хруцкага (лепш за ўсё ў Нацыянальным мастацкім музеі, але можна і ў каталогу, які быў выдадзены да 200-годдзя гэтага мастака), і знайдзі агульнае паміж наступнымі іх парамі: «Плады і дыня» і «Плады і свечка», «Плады і свечка» і «Партрэт невядомай з кветкамі і садавінай», «Партрэт невядомай з кветкамі і садавінай» і «Плады і дыня». Ты апынуўся ў своеасаблівым трохвугольніку, ці не так? Адна старана яго створана медным падсвечнікам і напалову абабраным лімонам, другая — персікамі, вінаградам і збанком, бакі і ручка якога аздоблены сюжэтам на тэму палявання, трэцяя — гарбузом і ягадамі ў скрыні. А што вуглы? Усе тры прадстаўлены… Зірні ўважліва… Правільна! Шклянкай з вадой. У адным выпадку ў ёй стаяць кветкі, у другім у ваду кінуты кружок лімона, у трэцім — проста вада, налітая, відаць, з графіна, што побач. Навошта мудрагеліць, калі за такімі вось няхітрымі, але прыемнымі воку выявамі выстройваецца чарга заказчыкаў? Павер, дружа, шмат якія іншыя партрэты і нацюрморты Івана Фаміча створаны быццам толькі для таго, каб нам цяпер гуляцца ў «знайдзі адрозненні». Чаму так? Таму што Іван Хруцкі ў сваім стагоддзі быў, як цяпер сказалі б, трэндавым мастаком, якому вельмі модна было замаўляць гэтыя ў поўным сэнсе брэнды: збанок з лісой і сабакамі, спружынку скуркі лімона, лубяны кошык, падсвечнік са свечкай ці без яе, навошчаную садавіну і напышлівыя кветкі. Зазірні, калі ласка, у кашалёк. Вось зараз жа, я пачакаю… Знайдзі там, пакуль яна яшчэ існуе, купюру старога ўзору на 1000 рублёў. Пазнаеш, дружа? Збанок з лісой і сабакамі, кветкі, падсвечнік са свечкай, персікі, вінаград… Гэта аповед пра тое, што мастацтва, як і жыццё, і людзі, і нават кветкі, бывае рознае. Толькі збанкі і падсвечнікі спрэс аднолькавыя.

Святлана Воцінава

# Прарыў у выяўленчым мастацтве, які ты возьмеш на ўзбраенне

## Перспектыва

Быў час, калі мастакі не ведалі перспектывы. Выяўленне рэчаіснасці развівалася ў межах рэлігійнага канона. Выява была ўмоўнай, стылізаванай, далёкай ад рэальнасці. Але з развіццём культуры ў Еўропе стала вострай неабходнасць авалодаць натурай, выяўляць яе рэалістычна, дасканала, і нават больш дасканала, чым наяве. Спачатку прадметы з плоскіх сталі аб'ёмнымі, чалавечыя твары з нейтральных — эмацыянальнымі, рухі персанажаў — разнастайнымі. А што з навакольным пейзажам? Як зразумець сутнасць яго выяўлення?

І вось у XV стагоддзі ў Італіі, дзе акурат кіпіць кацёл Рэнесансу, дзе культура развіваецца ў геаметрычнай прагрэсіі, адзін за адным геніі робяць адкрыцці. Яркія прыклады такіх геніяў — Філіпа Брунелескі і Леон Батыста Альберці. Дасведчаныя ў розных сферах, універсальныя людзі Рэнесансу, яны распрацоўваюць прынцып перспектывы. Гэта вынаходніцтва назаўжды зменіць традыцыю жывапісу, пашырыць бачанне гледача далёка за межы палатна, дасць моцную апору мастаку на шмат стагоддзяў наперад.





Філіпа Брунелескі.

У чым палягае сутнасць вынаходніцтва Брунелескі і Альберці? А ў тым, што вучоныя зразумелі, як апрацоўвае рэчаіснасць чалавечае вока. Менавіта оптыка вока скажае бачнае наваколле такім чынам, што прадметы, якія знаходзяцца далей ад гледача, падаюцца меншымі за тыя, што знаходзяцца бліжэй. Скажэнне распаўсюджваецца на ўсе прадметы без выключэння. Найвыразней прынцып пацвярджаецца архітэктурай — гарызантальныя лініі архітэктуры сходзяцца ў

адну ўмоўную кропку на гарызонце! Маючы на ўвазе такую схему, мастак можа рэалістычна маляваць будынкі і паказваць глыбіню ў карціннай плоскасці.

Простыя прыклады, якія ілюструюць перспектыву, — рэйкі, парэнчы моста, шэраг слупоў пры дарозе. Бліжэйшы да вас слуп вы нават не можаце ахапіць вокам, затое апошні можа быць настолькі маленькім, што вы будзеце бачыць проста кропку на гарызонце. Гарызонт простай мовай — гэта лінія, якая раздзяляе зямлю і неба. Але для мастака гарызонт мае значэнне як умоўная лінія, на якой знаходзяцца кропкі сходу.



Існуе два віды перспектывы. Брунелескі і Альберці распрацавалі лінейную перспектыву. З яе вынікае вуглавая перспектыва, якой сучасныя мастакі карыстаюцца часцей. Прынцып той самы. Розніца ў тым, што аб’ект павернуты да гледача рабром. Гэта значыць, мы бачым дзве грані аб’екта. І кожная грань скарачаецца ў перспектыве. Таму на гарызонце з’яўляюцца дзве кропкі сходу. Паназірай вакол — калі ты ў думках прадоўжыш лініі бакавых граней аб’ектаў, ты пабачыш, як дзве групы ліній сыходзяцца ў дзвюх кропках на гарызонце.




Перспектыва палягае ў аснове малявання пейзажа, інтэр’ера, нацюрморта, партрэта, паставы. Базавае веданне перспектывы павінна быць заўжды пад рукой мастака, і тады яно здорава дапаможа правільна весці малюнак на любым яго этапе.

На наступнай старонцы мы пабудуем куб па законах лінейнай і вуглавой перспектывы. Будзь з намі!

Алеся Галота

# Будуем куб



Паспрабуем прымяніць на практыцы веды аб перспектыве. Натуральна, маляваць будзем з натуры. Вазьмі куб — усе грані мусяць быць квадратнымі. Пастаў куб на стол. Маляваць лепей стоячы за мальбертам, каб мець карцінную плоскасць перпендыкулярна позірку. Замацуй паперу на цвёрдай паверхні.

**1.** Праводзім лінію гарызонту. Паколькі знаходзімся ў памяшканні, рэальную лінію гарызонту бачыць не можам. Але мы ведаем, што яна знаходзіцца на ўзроўні вачэй. Пераносім на карцінную плоскасць пярэдняе рабро куба. Вылучаем адрэзак рыскамі. Гэтаксама малюем дзве грані: пераносім з натуры яшчэ дзве лініі, абмежаваныя рыскамі.



1

**2.** Будуем аснову куба. Калі б ён быў шкляны, мы б пабачылі яго аснову як сплюснуты ромб. Нам трэба правільна знайсці гэтыя чатыры прамыя лініі, размешчаныя пад вугламі. Алоўкам фіксуем вугал — проста на адлегласці выцягнутай рукі «прыкладаем» аловак да рэальнай лініі. Пасля пераносім аловак у зафіксаваным стане на паперу — і праводзім лінію пад знойдзеным вуглом. Тое ж самае робім з другой лініяй асновы — пераносім яе на паперу.



2

**3.** Тое ж робім з верхнімі рэбрамі.



3

**4.** Цяпер крыху магіі — працягваем лініі асновы куба да лініі гарызонту. Натуральна, кропкі сходу не змесцяцца на тваёй паперы. Яны будуць далёка за межамі. Мы маем дзве кропкі перасячэння, неабходныя нам для будовы куба. Гэта перасячэнне лініі асновы і лініі рэбраў. Цяпер ад гэтых кропак перасячэння праводзім лініі ў супрацьлеглыя кропкі сходу на лініі гарызонту. Так мы атрымаем чацвёртую кропку асновы.



4

**5.** Ад яе можна падняць вертыкаль — і будзем мець чацвёртае, нябачнае рабро куба. Заўваж, што мы пабудавалі аснову куба вельмі дакладна, яна размешчана ў тым жа ракурсе, што і ў натуры.



5

**6.** Маем куб, пабудаваны па законах перспектывы. Акрэслім лінію стала. Крыху адзначым мяккім алоўкам пярэдні план — лініі павінны быць таўсцейшымі. Можна заштрыхаваць грань, на якую падае ўласны цень прадмета і падаючы цень.



6

Алеся Галота

Паломніцтва

# Лаўрышаўскі манастыр. Тут малітвы мацнейшыя



Год таму рэдакцыя «Бярозкі», трапіўшы на раскопкі тэрыторыі старога манастыра ў вёсцы Лаўрышава, пазнаёмілася з жыхарамі праваслаўнага палатачнага летніка, якія дапамагалі ў даследаваннях. Летась мы, на жаль, засталі самае развітанне выхаванцаў летніка з манастыром, таму сёлета вырашылі сітуацыю выправіць.

Сучасны Лаўрышаўскі манастыр знаходзіцца ў вёсцы Гнесічы, што побач з Лаўрышавам. Менавіта на тэрыторыі манастыра і размяшчаецца летнік. Мы прыходзім сюды крыху раней за прызначаны час, каб паназіраць за сапраўдным жыццём. Адразу ж знаходзім тое, што шукалі: Ірына Яўгенаўна Радзецкая і некалькі выхаванцаў выконваюць паслушэнства — самае любімае, без якога немагчыма жыць, як кажа настаўніца. Яны… чысцяць бульбу.

Пакуль выхаванцы і выхавацелі былі занятыя гэтай справай, мы абышлі тэрыторыю вакол манастыра. Убачылі і сам палатачны «горад». Некалькі «хатак» стаяць у нізінцы, згуртаваныя вакол пляцоўкі для вячорак — вогнішча. Дзеці жывуць тут дзесяць дзён. «Надвор'е цудоўнае — на выжыванне», — кажа Ірына Яўгенаўна. Можа здацца, што «змене» не надта пашчасціла: «У першы дзень прыехалі, паспелі разбіць палаткі толькі напалову — пайшоў лівень. Добра, што шацёр

паставілі, усе схаваліся. Дзве палаткі намоклі — мы адразу зразумелі, што нешта зрабілі не так. Але дождж прайшоў — праз гадзіну тут ужо суха. Усталявалі правільна — і ўсё добра».

Пакуль аглядаліся на тэрыторыі, Ірына Яўгенаўна расказала, што прыязджае сюды з дзецьмі ўжо восьмы год. З айцом Яўсевіем, настаяцелем, настаўніца знаёмая вельмі даўно: яшчэ калі ён быў семінарыстам, арганізоўвалі сумесныя заняткі ў школе. Калі яго перавялі ў Лаўрышава, сталі прыязджаць сюды: «Калі мы сюды прыехалі ўпершыню, тут было балота і мост на плаву. Для дзяцей плывучы мост быў такім шчасцем: прыйсці, сесці, памыць вопратку, пачысціць катлы. Манастыр рос на нашых вачах, будаваўся, у тым ліку, рукамі студэнтаў і школьнікаў. Да 2010 года тут жыў старац Серафім. Тады тут быў сапраўдны дух манастыра. Спачатку ён нас не прыняў: гэта ж дзеці — і крычаць, і дурэюць, і ўсякага хапае. Але мы так намагаліся працаваць, што аднойчы ён прынёс нам слоік мёду, цукеркі, цукар… Мы нават не паверылі. Калі ён кагосьці пачаставаў, значыць, ён прыняў гэтых людзей».

Час ісці «на вогнішча». Бачым там знаёмыя твары. Пакуль нам наліваюць гарбату, завараную тут жа, на агні, неверагодна смачную ад пахаў лесу і дыму, прапаноўваюць печыва і славутыя «агапікі» — найсмачнейшыя булкі, сакрэт прыгатавання якіх не выходзіць за межы манастыра, размаўляем.

Маша, якая сёлета тут другі раз, расказвае: «Летась было больш сонца і цяпла, а сёлета нас увесь час падтоплівае, дык сушымся і грэемся каля вогнішча. Мы тут працуем — выконваем паслушэнствы. Мае — збіраць зёлкі, а таксама чысціць і разразаць шышкі на лячэбную гарбату, якая дапаможа ад прастуды». Да размовы далучаецца Наста. Яна кажа, што зёлкі ўжо збірала і добра ведае ліпу, крапіву, палын, чыстацел. Акрамя згаданых паслушэнстваў — дапамогі ў кухні і збірання лекавых траў, выхаванцы прыкладаюць руку да будоўлі на тэрыторыі манастыра і ходзяць на раскопкі. Сёлета пад царквой Успення Божай Маці раскапалі крыпту, і ўсе, хто захацеў, змаглі спусціцца ў яе.

Да нас падсеў Іван. Ён расказаў пра лад жыцця ў Гнесічах больш падрабязна. Чым пераказваць, дадзім яму слова. Атрымалася цэлае інтэрв'ю:

*«Раніцай прачынаемся недзе гадзіне а сёмай. Праўда, нас вельмі доўга будзяць, але ўсё ж мы ўстаём. Нязвыкла, бо дома прачынаешся гадзіне аб адзінаццатай. У палатцы нас пяцёра, таму спаць вельмі цёпла. Як прачынаемся, бяром малітвасловы і ідзём маліцца. Потым — на сняданак. Кормяць тут не так, як дома ў мамы, бо ўсё поснае, але смачна. Прыеду дадому — наемся смажанага: мяса, бульбы на алеі… На сняданак у нас кашы, я іх не вельмі люблю, таму дзялюся сваёй з сябрам. Пасля ежы таксама молімся — гэта важна. Потым кожны ідзе на сваё паслушэнства. Самае цікавае — гэта раскопкі: надзяваем свае панамы, накіроўваемся з Гнесічаў да Лаўрышава пешкі, а далей каму што: каму капаць, каму тазікі цягаць, каму зямлю перабіраць. Мне больш падабаецца капаць. Перабіраць таксама цікава, але я не ўмею: у мяне палова патрэбных рэчаў можа сысці «ў нікуды».*

*Неяк мы знайшлі сківіцы. Нам сказалі, што яны належалі нейкім траваедным жывёлам. Спускаліся ў крыпту, якую знайшлі пад царквой. Там цікава. Усё было засыпана пяском, напэўна, хтосьці там нешта хаваў. Знайшлі там чалавечыя парэшткі, нацельную ікону і тканіну, якая нават захавала свой зялёны колер. Тканіну знайшла Вера. Яна сядзела побач са мной, мы перабіралі пясок, я скардзіўся, што нічога не знаходжу, а яна — знайшла тканіну.*



*Пасля раскопак вяртаемся на абед. Кормяць супамі, яны тут заўсёды добрыя, усе іх з'ядаюць і дабаўкі просяць. На другое — зноў кашы. Нязвыкла есці іх без каўбасы, але і так смачна. Потым у нас вольны час. Ну, як вольны… Крыху "атрымліваем" за гармідар у палатках, ідзём прыбіраць, мыць адзенне. Адпачываем ці працуем на тэрыторыі летніка. Потым — вячэра, даюць кашы, бліны, агапікі. Пасля прыходзім сюды, распальваем вогнішча, размаўляем, хор спявае. І — адбой.*

*Я прыехаў сюды не проста весела бавіць час, а штосьці зрабіць, падцягнуцца духоўна. Тут малітвы мацнейшыя. Мы хадзілі сёння ў храм, дапамагалі святару падчас набажэнства. Здорава, што нам дазваляюць гэта рабіць. Я ў сябе ў Гродне ў царкве таксама прыслужваю, але калі прыязджаеш у іншую царкву, бачыш штосьці новае, вучышся. З айцом Яўсевіем учора размаўлялі на розныя тэмы. Я, напрыклад, распытваў пра ружанец — для чаго яго выкарыстоўваюць. Ён сказаў, што ружанец звычайна для манахаў робіцца — яны бяруць на сябе пэўны малітвены подзвіг, калі ідуць у манастыр. Напрыклад, ім трэба шмат разоў прачытаць тую ці іншую малітву. На пальцах лічыць складана. Калі мы ішлі хрэсным ходам, чыталі малітву, я лічыў на пальцах, мне гэта не надта спадабалася. Айцец Яўсевій сказаў, што і ў свецкім жыцці можна карыстацца ружанцам, але не на паказ: дома ці ў кішэні. Гэта значыць, не бяруць яго ў школу на ўрок матэматыкі, каб палічыць 2+2».*

Калі размовы крыху сціхлі, дзяўчаты сабраліся, каб паспяваць — гэта таксама традыцыя вячорак на вогнішчы. У выкананні цудоўных галасоў мы паслухалі кранальны паланэз «Развітанне з радзімай», а таксама ўзнёслы гімн Лаўрышаўскага манастыра. Сёлета яго, дарэчы, пераклалі на беларускую мову, і дзяўчаты атрымалі паслушэнства да наступнага лета: вывучыць гімн па-беларуску.

Кацярына Захарэвіч

## Малітва слоў

# «Нашто каласы, калі няма васількоў»

У адзін з восеньскіх дзён 1916 года Максім Багдановіч прызнаўся Змітраку Бядулю: «Задумаў твор на тэму біблейскага міфа. Тэму навеяла мне вайна, гібель мільёнаў і мой уласны лёс». Размова ішла пра паэму «Страцім-лебедзь» — алегарычны твор пра моцнага і смелага птаха, які не захацеў падчас патопу, насланага Богам на зямлю, ратавацца адзін. Менавіта гэтую паэму можна разглядаць як запавет Багдановіча — яго апошняе слова да свету.

Наогул, у творчай спадчыне пісьменніка можна знайсці творы, натхнёныя біблейскімі тэкстамі, хрысціянскімі матывамі. Напрыклад, «Апокрыфу» аўтар знешне надае форму традыцыйных евангельскіх тэкстаў, падзяляе яго на пранумараваныя радкі, ужывае рытміку арыгінала і характэрныя формы звароту. У «Апокрыфе» Багдановіч выказаў свае адносіны да прыгажосці. Словы «нашто каласы, калі няма васількоў» гавораць пра духоўнасць, бо «не хлебам адным будзе жыць чалавек, а ўсякім словам, якое зыходзіць з вуснаў Божых». «Апокрыф» пераклікаецца з евангельскім апавяданнем аб Марфе і Марыі, але гэта не адзіны твор Багдановіча на тэму біблейскага сказа.

Светлым малітоўным настроем прасякнуты верш «Кніга». У ім гучыць цудоўны радок з 41-й псальмы цара Давіда і водгук сэрца самога паэта. У вершы «Цемень» адчуваецца глыбокая праўда рэлігійнага пачуцця: калі душа патанае ў бездані адчаю, малавер'я — і раптам адчувае выратавальны прамень святла Хрыстова. Паэт вельмі дакладна перадае стан хрысціянскай душы, якая заўсёды ў змаганні са злом: падае, узнімаецца...

Касмічная мініяцюра ў прозе «Калейдоскоп жизни» напісана Багдановічам пад моцным уплывам Эклезіяста і Евангелля. У мініяцюры выяўлена нікчэмнасць чалавечай мітусні, непраглядная бессэнсоўнасць жыцця і адвечная міласэрнасць любові Хрыстовай. Але дзе шукаць выйсце, калі *«устали глаза. Устали мысли...»?* Паэт бачыць выратаванне чалавецтва ў прыманні евангельскіх запаветаў і тым, каб іх прытрымлівацца.

Нельга пакінуць па-за ўвагай тэму, якая вылучае Багдановіча з шэрагу іншых паэтаў, — Мадонны. Магчыма, натхненнем для яго стала аднайменная работа Рафаэля, бо менавіта пра гэты «двайной красы аблік ядыны» пісаў Максім Багдановіч у сваіх вершах. Ён просты сюжэт спалучае з глыбокай духоўнасцю. Як і мастак, Багдановіч шукаў той самы вобраз, які б аб'ядноўваў дзявочую прыгажосць і мацярынскую ахвярнасць. І знайшоў яго ў вачах маленькай вясковай дзяўчынкі, у дарагіх сэрцу Ані, Нюце, Вераніцы…

У творчасці Максіма Багдановіча ёсць і цудоўныя гістарычныя стылізацыі, такія як «Апавяданне аб іконніку і залатару…». Як і «Апокрыф», апавяданне з'яўляецца прыкладам высокамастацкай прозы, у якім Максім Багдановіч сцвярджае думку каштоўнасці прыгажосці і мастацтва ў жыцці чалавека. «Музыка» — першы твор Багдановіча, таксама літаратурная стылізацыя папулярных у народзе казак пра чароўнага музыку — фальклорных трансфармацый антычнага міфа пра Арфея.

Адзіны прыжыццёвы зборнік паэта — «Вянок» — таксама напоўнены хрысціянскімі матывамі. Верш «Жывеш не вечна, чалавек», здавалася б, далёкі ад рэлігійнай тэматыкі, але ж у радку *«Жыві і цэльнасці шукай, аб высаце духоўнай дбай»* ёсць водгук хрысціянскага багаслоўскага разумення сутнасці чалавека як трыадзінства — дух, душа і цела, самой духоўнасці як галоўнай мэты жыцця.

Паліна Пархімовіч

# Чалавеку, які шукае

Імкненне да прыгожага суправаджае чалавецтва ад пачатку стагоддзяў. Ні войны, ні прыродныя катаклізмы, ні змены дзяржаўных межаў не знішчылі творчы патэнцыял народаў. Нават у крытычныя моманты знаходзіліся тыя, хто нястомна ахоўваў мастацтва за сценамі майстэрняў і манастыроў.

Аднак, як паказвае гісторыя, лёс не надта шкадуе адораных. Людзі ўзнёслай справы нярэдка жывуць пад зямным прыгнётам. Успомніць хоць бы ганенні на іканапісцаў старажытнай Візантыі, жорсткі кантроль таталітарных рэжымаў… Той, хто ўбачыў сэнс у стварэнні вялікага, мусіў бачыць і вялікую пакуту.

Аднойчы ў мяне адбылося незвычайнае знаёмства з «пакутнікам» нашых дзён. Сівы, крыху згорблены, апрануты ў шэры, зацёрты часам гарнітур, ён ціха сядзеў на лаўцы ў парку Горкага. Задуменнасць і сумны позірк сказалі без слоў: жыццё не выдалася простым. Карціны ж майстра — наадварот — дыхалі лёгкасцю і радасцю існавання. Яркія цёплыя колеры спынілі на палотнах і неба, і дываны палявых красак, і цэлае мора збажыны.

— Якая прыгажосць! — не стрымалася я. — Вы вельмі таленавіты.

— Таленавіты? А вы ведаеце, што такое талент? — спытаў мастак.

Я прамаўчала.

— Толькі адзін працэнт належыць прыродным здольнасцям. Усё астатняе — праца.

— Вашы карціны, тэхніка…

— Я вучыўся ў Пецярбургу, — працягнуў жывапісец. — Не магу сказаць, што марыў быць знакамітым. Проста хацеў, каб Акадэмія дала мне тыя веды, якія дала Рэпіну, Шышкіну, Сурыкаву. Вельмі хацеў маляваць. А гэты ваш талент — проста намаганне.

Сказаўшы апошнія словы, акварэліст змоўк і зноў пра штосьці задумаўся. Магчыма, ён больш не ўспамінаў гэтую сустрэчу, у маёй жа памяці яна засталася назаўсёды. Нячаста можна ўбачыць такую адчайную любоў да справы.

Камусьці жыццё людзей творчасці можа здавацца страшным існаваннем. Яны нярэдка сутыкаюцца з беднасцю і непрыняццем іх твораў пры жыцці. «Мастак — гэта чалавек, які заўсёды шукае і ніколі не знаходзіць», — пісаў Ірвінг Стоўн. Заўсёды шукае самаўдасканалення і ніколі не знаходзіць спакою. Сапраўдны носьбіт прыгажосці не чакае нічога іншага акрамя любові да сваіх твораў. І пакуль на свеце талент памнажаецца на штодзённую працу, пакуль жывуць дзівакі, якія аддаюць маладосць фарбам, пакуль існуе смеласць — мастацтва перамагае і ганіцеляў, і час.

Марыя Страх,<br>былая школьніца, а цяпер ужо студэнтка<br>Інстытута журналістыкі БДУ

# У гасцях у Марыі Апанасаўны

*Артыкул-экскурсія*





«Радзіма там, дзе начуе душа…», — урываюцца ў памяць словы Рыгора Барадуліна. «А дзе начуе твая душа?» — спытаеце вы ў мяне. Мая душа ў горадзе, дзе ладзіла дабрачынныя балі Эліза Ажэшка, дзе двухгадовым хлопчыкам бегаў Максім Багдановіч. Мая душа ў старажытнай Гародні.

Я запрашаю вас прайсціся гарадзенскімі сцежкамі аўтара «Вянка». Нашым суправаджальнікам будзе мая настаўніца беларускай мовы і літаратуры Ларыса Леанідаўна Вашкевіч, якая пачынала сваю працоўную дзейнасць у Музеі Максіма Багдановіча.

Прыпынак «Цэнтр занятасці». Няспешна крочым праз парк Жылібера. Старыя ліпы і вялізныя дубы ствараюць атмасферу даўніны. Можа, яны сваімі галінкамі спявалі калыханку малому Максіму-кніжніку? Мінаем парк.

Перад намі — двухпавярховы драўляны домік мансарднага тыпу, у якім размяшчаецца Музей Максіма Багдановіча. Нясмела адчыняем дзверы, заходзім у памяшканне. Трапляем у першы пакой, дзе на нас са сцен глядзяць вядомыя нам са школы знакамітыя дзеячы беларускай літаратуры. Узнікаюць асацыяцыі з «Залай сарака» ў Падуанскім універсітэце. Насустрач выходзіць гаспадыня дома, Марыя Апанасаўна Багдановіч. Пачынаецца тэатралізаванае шоу, створанае супрацоўнікамі музея.

Марыя Апанасаўна запрашае нас паглядзець, як жыла сям'я Багдановічаў, калі прыехала ў Гродна. Светлы дзіцячы пакой з кніжнай шафай, дзіцячым ложкам, мноствам цацак. Каля ложка — любімая цацка Максіма — мядзведзік Васечка, на падлозе — кошык, які быў сплецены яшчэ прадзедам Максіма. У кошык гэты любяць залазіць малыя Максім і Лёва, цягаючы адзін аднаго па нацёртай воскам падлозе і ўяўляючы пры гэтым, што яны на рацэ.

Потым Марыя Апанасаўна паказвае нам шкатулку, якую ёй падараваў мілы Адамка, калі яна з дзецьмі адпачывала ўлетку ў сястры ў мястэчку Вяззе. У шкатулцы яна захоўвае лісты ад любага мужа і градуснік, каб дзеці не дабраліся і не разбілі яго, як гэта было ўжо аднойчы. У Вяззі Марыя Апанасаўна праслыла

добрай лекаркай, да яе прыводзілі хворых дзяцей з усёй ваколіцы. Марыя Апанасаўна ведае зёлкі, збірае іх, сушыць, а пасля выкарыстоўвае па патрэбе. Хвіліна — і на стале ўжо гарбата з мятай. Мы частуемся, а Марыя Апанасаўна расказвае, наколькі карыснымі для здароўя могуць быць дарункі палёў, лугоў і лясоў. Мы знаходзімся ў гасцінай, пасярод якой размясціўся вялізны стол з самаварам — сімвалам дабрабыту сям'і. Марыя Апанасаўна паказвае музычны інструмент фісгармонію, на якім яна іграе ў вольны час. Мы зачараваны: здаецца, з саміх нябёсаў гучыць «Развітанне з Радзімай» Міхала Клеафаса Агінскага. Затаіўшы дыханне, уяўляем, як цяжка было Максіму Багдановічу ўдалечыні ад роднай Беларусі, калі сям'я пераехала ў Расію. Марыя Апанасаўна расказвае нам, што яна шмат чытае і нават спрабуе пісаць і друкаваць свае творы ў газеце «Гродненские губернские ведомости». А мы ўжо чуем голас, які чытае ўрывак з яе апавядання «Напярэдадні Каляд». Таленавітыя бацькі — таленавітыя дзеці.

На развітанне дзякуем супрацоўнікам музея за шчыры прыём, добры настрой і працягваем шлях на магілу жанчыны, якая нарадзіла сапраўднага беларуса. Непадалёку ад аўтавакзала знаходзяцца старыя могілкі з невялікай царквой. Насупраць уваходу ў царкву — магіла Марыі Багдановіч. Углядаемся ў надпіс «Маці паэта». Ёміста, але вельмі значна. На памяць прыходзяць радкі Максіма Багдановіча:

«Смертию смерть поправ»,
Ты ад жыцця адпачыла.

Мы ўдзячныя жыццю і Богу за тое, што маем магчымасць трымаць у руках, чытаць і перачытваць гэты невялікі зборнік вершаў — «Вянок», адчуваць, што яго аўтар дыхаў нашым гродзенскім паветрам, бегаў па вуліцах нашага горада. Мы развітваемся з Марыяй Апанасаўнай, каб сустрэцца з ёй зноў. Ужо з іншым настроем ідзём дамоў. Яшчэ трэба зрабіць фотакалаж, каб падзяліцца сваім адкрыццём Багдановіча з чытачамі «Бярозкі» і запрасіць іх на завочную экскурсію. Няхай яны будуць шчаслівыя нашым шчасцем, уражаныя нашымі ўражаннямі.




Подпіс рэдактара

_______________

Каміла Шуміла,
10 клас, гімназія № 2, Гродна

# Мой горад

*Эсэ-прызнанне*

Восень. Стаю на набярэжнай Дняпра, гляджу ўніз на цёмную ваду. У ёй адлюстроўваюцца аблокі. Куды плывуць яны? Падымаю галаву, а вакол усё жоўтае, памяранцавае, чырвонае. І неба блакітнае-блакітнае, і паветра такое празрыстае. А сярод гэтага золата і бронзы — ратуша беласнежная, велічная...

Люблю шамацець апалым лісцем, а потым сабраць яго ў вялізны букет. А яшчэ потым падкінуць гэты букет у паветра, каб рассыпаўся ён над галавой залатым лістападам.

Зіма. І хутка Новы Год. Які прыгожы горад увечары! На плошчы — прыгажуня-елка. Шчаслівыя хлопцы і дзяўчаты мітусяцца вакол яе. Гляджу на бліскучыя агеньчыкі і чакаю, што вось-вось выгляне з-за елкі Дзед Мароз, і абавязкова ў гэты момант здарыцца які-небудзь цуд.

Вясна. Першамай. Вуліцы ўпрыгожаны сцягамі. На клумбах яркія цюльпаны, велічныя каштаны запалілі свечкі. А яшчэ заспявалі фантаны, і адразу ж вясёлка зайграла ў іх пырсках. Ідзе па горадзе дэманстрацыя, музыка грыміць, усе ўсміхаюцца, усё ўсміхаецца. І я ўсміхаюся, радасна мне. Свята!

А потым надыходзіць лета з яго зялёнымі вуліцамі і рознакаляровымі кветнікамі. Люблю гуляць па Ленінскай, па яе бруку, дайсці да добрага чараўніка, ускараскацца на яго і спытаць: «Ну, колькі зорак сёння налічыў?» Знайсці крэсла са сваім знакам задыяка, сесці і загадаць жаданне.

Мой Магілёў. Такім я бачу яго з самага дзяцінства. Такім навучыла мяне яго любіць мая мама. І няма для мяне горада даражэй, чым мой Магілёў!




Подпіс рэдактара

_______________

Маргарыта Садоўская,
6 «В» клас, СШ № 40, Магілёў



# Марыя Раманоўская: «Самавучкі больш арыгінальныя»

*Інтэрвью са спасылкамі*

Марыю часта можна сустрэць у сквeры з альбомам, фарбамі і пэндзлікам. Звычайна вакол дзяўчыны збіраецца грамада хлопцаў і дзяўчат рознага ўзросту, каб паглядзець, як ствараецца новы шэдэўр. Яе малюнкі выклікаюць шмат эмоцый: адзін палохае да дрыжыкаў, а іншы — дае нагоду шчыра пасмяяцца. Але кожны твор мае глыбокі сэнс і сімволіку. Пазнаёмімся з работамі Марыі і даведаемся пра крыніцы натхнення, гісторыі стварэння малюнкаў і захапленні юнай мастачкі.

**— З чаго пачалося тваё захапленне?**

— Любоў да малюнка была ў мяне яшчэ ў дзіцячым садку, пачатковай школе. Я тая дзяўчынка, якая малюе падчас заняткаў, седзячы за апошняй партай. Для мяне няма перашкод: я малюю заўсёды і ўсюды, галоўнае — каб прыйшло натхненне.

**— Што для цябе мастацтва?**

— З самага дзяцінства мастацтва дапамагала мне збегчы ад рэальнасці. Гэта спроба нешта выказаць. Мастацтва — гэта я. Я адчуваю сябе шчаслівай, калі малюю. Мне маркотна, калі я не маю магчымасці ўзяцца за аловак ці пэндзаль. Мае малюнкі — гэта мой сусвет, маё жыццё. Сваімі малюнкамі я жыву.

**— Ты наведваеш гурткі ці школу мастацтваў?**

— Настаўніца выяўленчага мастацтва Марыя Мікалаеўна Русецкая стварыла ў нашай гімназіі гурток «Юны мастак». З сёмага класа два разы на тыдзень мы сустракаемся, ствараем работы, абмяркоўваем памылкі. Мяне вабіць цудоўная атмасфера гэтага гуртка, там адчуваеш сябе сапраўдным мастаком. Школа мастацтваў — гэта не для мяне, я самавучка. Я думаю, што самавучкі больш арыгінальныя і прывабныя ў плане ідэй.

**— Што цябе натхняе? Адкуль прыходзяць ідэі?**

— Натхняюць музыка, кнігі і фільмы. Летась я прайшла відэагульню Undertale, па яе сюжэце стварыла серыю фан-артаў. Увогуле, у малюнках адлюстроўваю ўсё тое, што бачу і адчуваю. Калі мяне кранае нейкі выпадак ці праблема, я прысвячаю творы ім. Часам у малюнках я высмейваю недахопы свету. Калі тэма мне нецікавая, нічога добрага не атрымаецца.

**— У цябе ёсць свая суполка «УКантакце», якая налічвае ўжо больш за 280 чалавек. Раскажы пра яе.**

— У мяне спачатку не было зацікаўленасці ў стварэнні суполкі. Яе зрабілі мае сябры, якія любяць мае малюнкі. Калі на старонку сталі прыходзіць людзі і казаць, што ім падабаюцца мае творы, я пачала актыўна працаваць над ёй. Гэта вельмі натхніла мяне. Я магу доўга не выкладваць нічога, але мае падпісчыкі цярпліва чакаюць новых работ. Калі-нікалі я раблю маленькія падарункі падпісчыкам — малюю іх партрэты.

Калі жадаеце бліжэй пазнаёміцца з малюнкамі Марыі, запрашаем у яе суполку «УКантакце»: vk.com/bibaarts. Тут можна ўбачыць і сур'ёзныя работы, якія кранаюць душу, і малюнкі-жарты.

**— Кім з мастакоў ты захапляешся?**

— Мяне зачароўваюць работы за подпісам Lora Zombie, мастачкі з Санкт-Пецярбурга. Яна стварае карціны ў стылі «grunge art», а таксама выпускае серыю адзення са сваімі прынтамі. Добра, што яна закранае вострыя сацыяльныя пытанні: вайна, жорсткасць, адзінота. Мне падабаюцца коміксы і зіны (аматарскія часопісы), якія стварае Аліна Выгода (torsh19).

**— У якіх яшчэ відах мастацтва ты спрабавала сябе рэалізаваць?**

— Сур'ёзна я займаюся толькі малюнкам, але вельмі люблю спяваць і танцаваць. Знаёмыя часта кажуць, што ў мяне добрае адчуванне рытму і выдатная пластыка. Таксама люблю рабіць фотаздымкі, мне падабаецца захоўваць цікавыя моманты жыцця. Нядаўна пачала пісаць фанфікі — кароткія апавяданні.

Гутарыў Данііл Шэйка,
10 клас, Акцябрская раённая гімназія
Гомельскай вобласці




Подпіс рэдактара

# Хлопчык і сланяня



Мастачка Дана Цюперак

Маленькім я вельмі любіў цырк. Больш за іншых цыркавых жывёл мне падабаліся сланы.

Калі мне споўнілася пяць гадоў, мама і тата павялі мяне, як вы думаеце, куды?

Правільна, у цырк!

Там я ўбачыў катоў, сабачак, жанглёраў, фокуснікаў, акрабатаў, клоўнаў. І вядома ж, сланоў.

Больш за ўсё спадабалася мне маленькае сланяня, якое звалі Фокус. Фокусу было пяць гадоў. Як і мне.

Сланы жывуць доўга, амаль столькі ж, колькі і людзі. І яны вельмі разумныя. А яшчэ ў сланоў выдатная памяць. У іх, як і ў нас: знаёмы — падыходзь бліжэй, незнаёмы — трымайся на адлегласці!

А потым гледачам першага рада, дзе і я сядзеў, дазволілі пагладзіць жывёл, якія ўдзельнічалі ў цыркавой праграме.

Я адразу ж падбег да сланяняці. І — які жах! — аказалася, што калі дзеці гладзяць жывёл і кормяць іх цукеркамі, то жывёлам гэта не вельмі і падабаецца.

Бо цукеркі — не сябры жывёлам! Ва ўсякім разе — не ўсім жывёлам яны сябры!

І тады я папрасіў тату пайсці ў кіёск і купіць там бананаў. А потым я аддаў бананы Фокусу, і ён адразу ж пабег з імі да сваёй матулі-сланіхі. А потым, у знак удзячнасці, Фокус, вельмі падобны на маманцяня з мультфільма, дазволіў мне пакатацца на яго спіне. І я з задавальненнем пакатаўся. А потым яшчэ даведаўся шмат цікавага пра гэтае сланяня.

Напрыклад, я ўбачыш, што Фокус яшчэ п'е малако ў сваёй маці (гэта ў пяць гадоў!), і п'е яго не праз хобат, а проста ротам.

Пазней я даведаўся, што сланы бываюць афрыканскімі і азіяцкімі. Некаторыя называюць азіяцкіх сланоў індыйскімі. Але гэта няправільна!

А яшчэ я даведаўся, што мой новы знаёмы — афрыканскі слон.

Многія думаюць, што цар звяроў — леў. Але ж гэта не так!

Траваедны слон можа важыць больш за дванаццаць тон, а драпежны леў — усяго толькі дзвесце пяцьдзясят кілаграмаў. Слон льва не баіцца!

Сланяня пры нараджэнні важыць каля ста кілаграмаў і мае рост каля метра.

Сланы не ўмеюць падскокваць, затое могуць прыязна ўсміхацца. А яшчэ яны ўмеюць сябраваць і клапаціцца аб сваіх сябрах.

Сябар — не гадаванец, яго нельга прыручыць. З ім можна толькі сябраваць.

Прайшло некалькі гадоў з таго часу, як я пазнаёміўся з маім сябрам, сланянятkам Фокусам. Ён паехаў з цыркам, і мы доўга не бачыліся.

Неяк я ішоў у краму і раптам заўважыў, што непадалёку ад яе размясціўся цырк «шапіто». Якраз у такім цырку я і пазнаёміўся калісьці з Фокусам.

І мяне ахапілі радасныя трызненні.

А раптам гэта той самы цырк? І мой сябар Фокус таксама тут? Вось толькі ці пазнае ён мяне праз столькі гадоў?

І тут я заўважыў, як да мяне бяжыць нейкі малады слон, у якім я, хоць і не адразу, пазнаў Фокуса.

А ён чамусьці гучна затрубіў у свой хобат. А потым гэтым жа хобатам адкінуў мяне з дарогі. Амаль з-пад самых колаў аўтамабіля, у самы апошні момант.

Так, дарога не месца для мараў і трызненняў!

Але, як кажуць, усё добра, што добра скончылася!

А яшчэ пацвердзіўся цікавы факт: сланы валодаюць дарам памяці. І не толькі аб нейкіх рэчах альбо мясцовасці, але і аб людзях. Фокус даказаў мне гэта, калі праз шмат гадоў не толькі ўспомніў пра нашае з ім сяброўства, але і выратаваў мне жыццё.

Час сяброўству не перашкода!

Валера Мусіенка,
6 «Б» клас, гімназія № 75, Мінск

Казкі школьнага ранца

# Хто дурнейшы?

Звычайна спрачаюцца: хто разумнейшы? Але здараецца і наадварот.

Паспрачаліся неяк баран і курыца, хто з іх… дурнейшы.

— Я дурнейшы! — бляяе баран. — І нашмат! Нездарма ж людзі кажуць: «Дурны, як баран!»

— А вось і не! Я дурнейшая за цябе! — сакоча курыца. — Я сама чула, як на днях гаспадар на жонку крычаў: «Ну, і дурная ж ты, зусім як курыца!»

Крычаць, спрачаюцца, але спрэчку вырашыць ніяк не могуць.

А тут якраз непадалёку воўк бег. Пачуў ён іхнія крыкі, у той бок звярнуў.

Убачылі ваўка баран і курыца, узрадаваліся. Просяць яго:

— Вырашы нашу спрэчку: хто з нас дурнейшы?

— Я, баран, — бляяе баран, — кажу, што я самы дурны!

— А я, курыца, — сакоча курыца, — з гэтым нязгодная! Я дурнейшая за барана!

Паглядзеў на іх воўк, аблізнуўся, і кажа:

— Не тое цікава, хто з вас дурнейшы, а тое важна, хто больш тлусты і смачны!

Добра яшчэ, што сабакі вясковыя пачулі ваўка, забрахалі, напалохалі шэрага. Кінуўся ён наўцёкі, а баран і курыца з таго часу перасталі спрачацца, хто з іх дурнейшы.

Магчыма, паразумнелі крышачку?

Эма Трацэўская,
7 клас, гімназія, Светлагорск

## Восень

Восень, восень залатая,
Ты прыгожая такая!
Хоць і дожджык на двары…

Ды ад дожджыку ў бары,
Вам на радасць, грыбнікі,
Параслі баравікі.

## Надыход зімы

Дрыжаць на ветрыку асіны.
І чырванню гараць каліны.
І сонейка не часта свеціць.
Зайцы слядамі сцежкі мецяць.
Пад лёдам рэчка анямела.
Адна крынічка звоніць смела,
Напоіць зайчыка, лісічку
І жаўтагрудую сінічку.
Няхай лютуюць халады —
Усе нап'юцца там вады.

Крысціна Парэпка,
5 клас, гімназія, Вілейка

## Веласіпед

Купілі мне веласіпед…
І хоць катацца я не ўмела,
Ды на сядло без страху села…
Перажыла я столькі бед!

За мной падтрымка бегла ззаду:
Бабуля з дзедам, маці, тата.
Сусед крычаў мне:
— Тармазі!!!
— Не, позна, браце — бінт нясі…

Разбіла я сабе каленку,
Парвала новую сукенку.
Але ж свайго я ўсё ж дабілася —
Катацца добра навучылася!

Ганна Сінькевіч,
6 клас , СШ № 1, Заслаўе

## Мой любы край!

Мой любы край, мая старонка,
Цябе так рада я вітаць!
Тут, дзе жаўрук спявае звонка,
Павінен кожны пабываць.
Тут хтосьці толькі нарадзіўся,
Другі пражыў увесь свой лёс…
Ды ў сэрцы кожнага адбіўся
Прасцяг палёў, блакіт нябёс,
Таполі, чыстая крыніца…
Мой любы край, мой родны кут!
Заўсёды буду ганарыцца,
Што нарадзілася я тут!

Насця Юда,
7 клас, Заслаўская гімназія, паэтычны
клуб «Ізяслаўцы»

## Услед за летам…

Заплятае лета ў косы
Незабудкі, васількі.
Рассыпае дзіва-росы
У лагчынцы, ля ракі.
Засявае карпатліва
Зёлкамі лугі і нівы,
Потым кветачкі збірае,
У вяночкі іх сплятае,
А на свята, на Купалле,
У раку вянкі кідае.

А за летам восень крочыць,
Лісцем ціхенька шапоча,
Круціць жоўты карагод…

І зіма завершыць год.

## Радзіма

Радзіма — гэта лес і поле,
Бярозак роўныя радкі,
Азёр блакітнае раздолле.
Ва ўсе гады, ва ўсе вякі!

Яна спявае з жаўрукамі,
Званочкам з раўчуком звініць,
Спавіта рэчак ланцужкамі…
Як жа яе мне не любіць?!

Лізавета Скальская,
6 клас, Заслаўская гімназія, клуб
«Ізяслаўцы»

*У чэрвеньскім нумары за 2015 год вы ўжо знаёміліся з вершамі настаўніцы беларускай мовы і літаратур Наталлі Цвірко, якая працуе ў Скрыбаўскай СШ Шчучынскага раёна. Тут прапануем яе новую падборку.*

Наталля Цвірко

# У свеце шмат розных нязнаных дзівосаў



Мастачка Юлія Усава

## Вандроўка

Выпраўляюся хутка ў вандроўку па свеце,
Спадарожнікі мне будуць сонца і вецер.
Уздымаю вышэй ветразь светлай надзеі,
Хай у моры жыцця мая лодка ўцалее!
Добры дзень…
Добры лёс…
Людзі добрыя ўсюды…

Выпраўляюся ў свет па прыгоды і цуды.

## На крылах вясны

Абдыму цэлы свет,
Узлячу ў паднябессе…
Застанецца мой след,
Зазвініць мая песня!

Я на крылах вясны
Уздымуся высока.
Хай збываюцца сны!
Мары клічуць далёка!

## Казка лета

У лета ў далонях
Чароўная казка.
І хутка аб гэтым
Яно нам раскажа.

Празвоняць званочкі
На лузе стракатым,
Што лета ўжо крочыць,
Што цудаў багата.

## Летні вечар

Дрыготкія зоркі і вечар дрымотны,
А месяц на зоркі ўглядаецца ўпотай.
Рамонкі, валошкі, ля рэчкі каліна,
І лета над светам таемна-шчаслівым.

У свеце шмат розных нязнаных дзівосаў,
Блішчаць дыяментамі кропелькі-росы.
Пад зорную россып зноў дзень засынае,
А лета над светам на крылах лунае.

*Аднаму са старэйшых беларускіх пісьменнікаў, Івану Муравейку, спаўняецца 95 гадоў. Часопіс «Бярозка» сардэчна віншуе юбіляра ад імя ўсіх сваіх чытачоў.*

*Ветэран Вялікай Айчыннай вайны, заслужаны работнік культуры Беларусі, Іван Андрэевіч Муравейка — аўтар шматлікіх кніг паэзіі і прозы, многія з якіх прысвечаны менавіта школьнікам. Кнігі гэтыя не залежваюцца на бібліятэчных паліцах, ахвотна набываюцца ў крамах для хатняга чытання.*

*Прапануем прачытаць адзін з вершаў Івана Муравейкі, які ён напісаў яшчэ ў далёкім 1938 годзе. 17 гадоў было аўтару ў той час, а як па-майстэрску напісаны верш, як сучасна ён гучыць і цяпер…*

Іван Муравейка

## Захапленне

Я стаю у полі, на гары стаю,
З любасцю гляджу я
на зямлю сваю.
Яркім аксамітам поле ўсё
пакрыта:
Там – авёс, пшаніца, там – ячмень
і жыта.
Чую я, ракочуць дзесьці
трактары,
На лугах касілкі ходзяць ад зары.
Нашу школу бачу – дом
двухпавярховы.
А вунь – клуб, не хата:
ён прыгожы, новы.
На рацэ плаціна і электрадом –
Ноччу вёска ззяе сонечным
святлом.
Я стаю у полі, на гары стаю,
З любасцю гляджу я на зямлю
сваю.

## Скарбы дзяцінства

У абдымках дзяцінства засынаюць сумненні,
Там няма шкадаванняў, і папрокаў няма.
Я складаю ў скарбонку ўсе хвіліны-імгненні —
Не бывае ў дзяцінства ні хвіліны дарма.

І там недзе далёка, на жыццёвых дарогах,
Сярод тлумнага свету, ля чужых берагоў,
Тыя скарбы дзяцінства зноўку мне дапамогуць,
Не дазволяць згубіцца паміж розных шляхоў.



## Вясёлы званок



Праляцела хутка лета…
Хоць сумуем мы аб гэтым,
Ды звініць званок вясёлы —
Нас вітае сёння школа!



Колькі кветак, колькі ўсмешак
Тут, у лецейка на ўзмежку!
Зноў звініць званок вясёлы,
Бо сяброў збірае школа!



## Цуда восені

Птушкі лета на крылах
Аж за мора адносяць.
Свет аздобіла шчыра
Пазалотаю восень.
Восень дорыць нам цуды —
Залацінкі-іскрынкі…

Павуцінкі-дажджынкі
Быццам пацеркі ўсюды…

*Вядомы беларускі паэт Мікола Гіль адзначае юбілей — 80 гадоў. «Бярозка» віншуе юбіляра, які з'яўляецца адным з аўтараў часопіса. Памятаеш яго вершаваную казку «Хто Зайца баіцца?»? Прапануем цяпер адзін з восеньскіх вершаў Міколы Гіля — лірычны і філасофскі адначасова.*

Мікола Гіль

## Прадзімні лістапад

Не ля двара — даўно ў двары
Прадзімні лістапад.
І сам я — гэткае ж пары,
І той, і той — не рад.

А лістапад — сабе наўздзіў —
Лагодны, быццам кот,
Такі, што зноў каштан зацвіў —
Сюрпрыз пад Новы год!

І сонца, нізкае няхай,
Пяшчотнае, бы печ,
І цішыня, і небакрай —
Усмешкаю, бы скетч!

А доле шархатлівы лёг
Персідскі дыванок —
Мякчэй за самы мяккі мох,
Уцехай воч і ног!

Па ім ступаю, як бацян,
І — шорхат ўслед за мной.
І ападае, бы туман,
Туга з душы маёй.

І ўжо нібыта можна й жыць,
І бачыць новы дзень,
Хоць ён мо й сёння заімжыць:
Зіма ж — цераз пляцень…

## Зіма

Белы снег заслаў палеткі,
Спяць у шэрані лясы.
Да вясны паснулі кветкі,
Птушак змоўклі галасы.

Навакол зіма ўладарыць,
Зноў завеяў карагод.
Ды для дзетак гэта
ў радасць,
Бо прыходзіць Новы год!

Цудаў час і падарункаў,
І ў такі вясёлы час
Зноў знаёмым накірункам
Дзед Мароз імчыць да нас.

## Беражыце сяброў!

Беражыце сваіх сяброў,
Тых, хто побач заўсёдыз вамі!
Не кідайце бяздумна слоў,
Што душу й сэрца людзям раняць.

Атуліце сяброў цяплом,
Ахініце спагадай, згодай...
Хай сяброўства яркім святлом
Будзе вам у жыцці заўсёды!

*Член Саюза пісьменнікаў Расіі і член Саюза краязнаўцаў Расіі, Алег Трушын — юрыст, вядомы пісьменнік і заўзяты паляўнічы. Каб упэўніцца ў гэтым, дастаткова прачытаць тры невялікія апавяданні.*

Алег Трушын

# Запасны выхад са... шпакоўні



Каму незнаёмая птушка дзяцел? З самага ранняга дзяцінства ведаем мы пра яе. Працаўнік заўзяты, без работы і хвіліны не прабудзе. Пайдзі зімой у лес — адных толькі дзятлаў і чутна. То насенне з шышак вылушчваюць, то дрэвы адно за адным даследуюць у пошуках шкоднікаў. Карысныя птушкі, што тут казаць. Нездарма дзятла называюць «лясным доктарам».

Аднойчы брат расказаў мне займальную гісторыю пра дзятла.

— Справа перад самай зімой была, — пачаў ён аповед. — Выйшаў я неяк у двор вясковай хаты, бачу: на адной са шпакоўняў, што на жэрдачцы да плота прымацаваныя, вялікі стракаты дзяцел сядзіць. Мяне ўбачыў і прэч паляцеў. Але недалёка. Якраз за бульбяным полем сеў на бярозу і давай па-свойму крычаць штосьці. Зразумеў я, што не даспадобы было дзятлу маё нечаканае з'яўленне. Потым я яшчэ некалькі разоў гэтага самага дзятла каля сваіх шпакоўняў сустракаў, але, шчыра кажучы, вялікага значэння гэтаму не прыдаў — лес побач, ці мала з якой прычыны дзятла раптам да чалавечага жытла пацягнула. Ды і зіма не за гарамі. Бывалі выпадкі, дзятлы шпакоўні сабе ў якасці часовага жытла на зіму выбіралі.

— А потым так здарылася, што я некалькі дзён у вёсцы не паказваўся, — працягваў брат. — І забыўся зусім пра таго дзятла. А як толькі да шпакоўняў падышоў, бачу: тут ён, зноўку каля іх круціцца. Убачыў мяне і хуценька ў бок лесу паляцеў. А я прыглядзеўся да шпакоўні, на якой дзяцел сядзеў, і не магу зразумець, у чым справа. На бакавой сцяне шпакоўні, што ў бок вуліцы звернута, нейкая незразумелая пляма чарнее. Шпакоўня новая, толькі мінулай вясной да плота яе прымацаваў. Дык што ж там за пляма такая? Бліжэй падышоў і вачам не паверыў! Не пляма гэта, а дзірка памерам з курынае яйка. З фасада ўваход — той, што я сам зрабіў, а збоку — нібыта запасны выхад, дзятлам прароблены. Дык вось, значыцца, чаму дзяцел увесь гэты час тут круціўся! Толькі незразумела, навошта яму самому гэта трэба было? Чым дзятлу шпакоўня не падышла? Ну, няхай бы пад свой памер парадны ўваход пашырыў, а то вось што ўдумаў — новую дзірку прабіў, ды пад самым карнізам. Чаму? З якой мэтай?

Магчыма, унутраная пустата шпакоўні ўвяла птушку ў зман. Прастукаў дошчачку — і давай далей дзяўбці ў пошуках караедаў. Але чаму менавіта з гэтага боку, а не з супрацьлеглага? Можа, проста так, дзеля спартыўнага інтарэсу з дошкай кожны дзень практыкаваўся? Атрымалася ў выніку шпакоўня ці то з запасным выхадам, ці то з акенцам на вясковую вуліцу. Толькі той дзяцел больш каля шпакоўні не паказваўся: можа, свой канфуз асэнсаваў, а магчыма, вінаватым сябе адчуў за сапсаваную шпакоўню.

Пасля гэтага аповеду вырашыў я зірнуць на тую шпакоўню. Усё так і аказалася, як брат мне паведаміў.

Бывалі выпадкі, калі ў вёсках цярпелі ад дзятлаў жэрдкі для тэлевізійных антэн. Яно і зразумела — жэрдкі гэтыя розныя, нібыта ствалы дрэўцаў. Вось і садзяцца на іх дзятлы ў пошуках караедаў, часам немалыя дзіркі ў жэрдках гэтых робячы. Так што моцны вецер потым і наогул жэрдку зламаць можа, антэну са строю выводзячы. Але каб вось так са шпакоўняй распраўіцца, ні сабе, ні іншым жытла не даць — першы раз пра такое пачуў.

Доўга я думаў аб дзятлавай «дыверсіі», ды так і не прыйшоў да канчатковай высновы. Хоць запасны выхад у доме яшчэ нікому не перашкодзіў.



# У кожнага свой шлях

Вярталіся мы неяк з маім даўнім сябрам — мясцовым егерам — з дальняга паходу. Няспешна брылі чыстай лясной дарогай, якая павінна была вывесці нас да вёскі. Ішлі, размаўлялі. Вясновы лес, які прачнуўся яшчэ да світанку, звінеў наўкол птушыным рознагалоссем. Час ад часу мы прыпыняліся, слухалі, затым зноўку працягвалі свой шлях. Яшчэ крыху — і павінен быў абазначыцца апошні паварот, за якім нас чакала вясковае поле.

Раптам бачым, невялікі звярок спешна тупае па дарозе наперадзе.

— Глядзі, вожык! — усклікнуў егер, не заўважыўшы ў ранішніх прыцемках у «вожыка» андатравага хваста.

Так, гэта была андатра. Вось толькі як яна тут апынулася? Паблізу, на доўгія тры вярсты, аніякага раўчука альбо сажалкі. Вакол сасновы бор. А звярок бяжыць сабе па дарозе, быццам шлях свой наперад ведае. Спяшаецца, нібыта баіцца ў госці спазніцца. Мы яшчэ пажартавалі: нібыта турыст сапраўдны, толькі заплечніка не хапае.

І тут у нас думка адна з’явілася: «Дагнаць звярка трэба, бліжэй яго разглядзець».

У некалькі крокаў апярэдзілі мы андатру, і я, спрабуючы перагарадзіць ёй шлях, паставіў перад самым носам звярка нагу. Тое, што адбылося далей, наогул ніяк не ўкладвалася ў нашы планы «бліжэй разглядзець». Андатра, убачыўшы на сваім шляху незразумелы прадмет, рэзка падскочыла і паспрабавала ўкусіць мяне за калена. Пасля першага няўдалага кідка адбыўся другі, за ім трэці. Мне нічога іншага не заставалася, як у спешным парадку пачаць адступленне, адначасова з гэтым ухіляючыся ад няспынных нападаў жвавага звярка. А андатра нібыта ператварылася ў нейкі пругкі жывы мячык, пакрыты поўсцю. Час ад часу мне нават удавалася ўбачыць яе маленькія, поўныя гневу вочкі-пацеркі,

у якіх літаральна кіпелі гнеў і нават нянавісць да крыўдзіцеляў, якія нахабна перашкодзілі ёй працягваць шлях.

Што ж, гэта смешна гучыць, але андатра атрымала пераканаўчую перамогу, і нам давялося дружна кінуцца наўцёкі, прычым, звярок, не раздумваючы, пагнаўся за намі. Але куды там маленькай андатры спаборнічаць з чалавекам у хуткасці бегу!

Адбеглі мы на добры дзясятак метраў, спыніліся, азірнуліся — андатра стаяла пасярод дарогі на задніх лапках і пераможна на нас глядзела. І нібыта ўсім сваім выглядам яна казала: «Ну што, правучыла я вас? Будзеце ведаць, як да мінакоў у лесе чапляцца!» А потым, як ні ў чым ні бывала, павярнулася і пашкандыбала далей па сваіх справах. А мы, здзіўлена пазіраючы ўслед ваяўнічаму звярку, дружна рассмяяліся. Ну вось, спынілі і разгледзелі, называецца! Шчыра падзівіліся мы спрыту і адвазе андатры, што апынулася так далёка ад месцаў свайго пражывання, але не разгубілася і так па-геройску змагалася за жыццё.

З той красавіцкай раніцы я добра засвоіў залатое правіла: у кожнага ў жыцці свой шлях, свае сцежкі-дарожкі. Вялікія і малыя. Штодзённыя і лёсавызначальныя. І не трэба ніколі станавіцца ў кагосьці на ягоным шляху, хай нават гэтым кімсьці будзе маленькая андатра.

# «Сталоўка» лісіцы



Памятаеце вядомую казку, у якой хітрая лісіца спачатку дзеда перахітрыла, рыбку з санак у яго ўкраўшы, а потым яшчэ і «дапамагла» праставатаму ваўку хвост свой у палонцы пакінуць?

Гэта ў казцы, але і сапраўды ў лісіцах столькі хітрасці часам бывае! І не супраць даўгахвостая хітраванка сама каля палонкі парыбачыць з надзеяй на багаты ўлоў…

Бо чуў я ад бывалых рыбаловаў гісторыі аб тым, што любяць лісіцы наведваць начамі тыя палонкі, якія ад рыбакоў застаюцца. Калі мароз не моцны, то доўга такая палонка не замярзае, і рыба з глыбіні да яе выплывае кіслародам падыхаць, бо зімой яго пад ільдом вялікі недахоп.

А лісіца тут як тут. Расказвалі аматары падлёднай лоўлі, што назіралі, як лісы ўсю ночку каля палонкі дзяжураць, спрабуючы рыбку знянацку адтуль выхапіць. А часам і самі рыбакі да палонак лісіц прынаджваюць — пакінуць побач некалькі дробных рыбак, вось і прыходзіць кожную ночку Патрыкееўна па рыбу, нібыта вартуе такім чынам палонку рыбацкую.



Але адна справа — чуць такія гісторыі, і зусім іншая — усё гэта сваімі вачыма пабачыць. Вось аднойчы і займеў я такую магчымасць.

Зімой справа была. Вырашыў я пагодлівым дзяньком наведацца на лясную рэчку. Дзень быў сонечны, з лёгкім марозікам. Адліга, што скончылася за некалькі дзён да гэтага, зрабіла снег шчыльным, прысыпаўшы яго зверху свежай парошай, ісці па такім снезе на лыжах было адно задавальненне. Выйшаў я на невялікую рэчку без назвы і адправіўся па яе крутым заснежаным беразе ў бок вядомай мне бабровай грэблі.

Пасля таго, як пасялілася на гэтай рачулцы баброўая сямейка, стала яна паўна-

воднай — вада да самага беражка падступае, шуміць пад ільдом, часам наверх выплюхваючыся. Снег на беразе літаральна вытаптаны зайцавымі слядамі, бо асінак тут маладых шмат. Непадалёку куніца прабегла, парныя буйныя слядочкі яе якраз уздоўж берага цягнуцца. Побач ледзь прыкметная сцежачка ад слядкоў гарнастая — вынырнуў звярок з-пад снегу, прабег метр-другі і зноўку ўніз, пад снег. Мышэй высочваць да і самому ад драпежнікаў — пугача ды лісіцы — схавацца.

А вось і роўненькі ланцужок слядоў лісіцы па самым цэнтры рачнога рэчышча цягнецца — сышла Патрыкееўна з заснежанага берага і далей працягнула свой шлях ужо ўздоўж ракі. Свежы слядок, ранішні, не паспеў яшчэ на марозе загрубець. Відаць, што не спяшалася лісіца, усё наўкол няспешна даследавала: з цэнтра сыдзе, каля берага затрымаецца, патыкаецца носам у снег — і зноўку ў дарогу.

«Не дарэмна, — думаю, — лісіца тут ашываецца! Справу нейкую, пэўна ж, задумала! Бо на ледзяной гэтай паверхні здабычы няма, нават мышаня якога і тое не зловіш…»

Зірнуў я далей па рэчышчы — а след лісіцы ўсё па рэчцы цягнецца, нікуды ўбок не зварочвае. Але ж там, наперадзе, грэбля, яшчэ з кіламетр пройдзе лісіца, а потым, хочаш не хочаш, а давядзецца ёй на бераг выбірацца!

Вырашыў я тады таксама далей прайсціся — мо што цікавае пабачу? Іду асцярожненька. Пароша лёгкі ход лыжам дае, лыжня не рыпіць, так і дайшоў да месца, дзе рэчка ўбок выгінаецца. Там ужо чуваць, як вада шуміць на перакатах бабровай грэблі. Трэба на бераг выбірацца, але наперадзе непралазныя зарасці чаромхі, нізавошта з лыжамі праз іх не прабіцца.

Накіраваўся я да берага, каб зарасці гэтыя абмінуць, і наткнуўся на лісіцу. Убачыла яна мяне — і шась у густы ельнік. Вось толькі што была — і няма ўжо, і што дзіўна, аніводная з елачак нават не зварухнулася. Эх, думаю, спудзіў лісіцу, але што зробіш! Вельмі ўжо асцярожны гэты звер, і са слыхам у яго ўсё ў парадку.

Узабраўся я зноўку на берагавы адвал і ўбачыў знізу, проста каля берага, рачную вымоіну. Вакол шмат слядоў, што ад лісіцы засталіся, і штосьці незразумелае чарнее на снезе. Падышоў бліжэй, зірнуў — а гэта вялікі акунь, дакладней, палова акуня. Снедала тут лісіца, а я перашкодзіў!

Але ж як яна схітрылася рыбіну злавіць, ды яшчэ такую буйную?

І тут дайшло да мяне, што шукала лісіца, пакуль па лёдзе бегла. Палонку яна шукала альбо проста вымоіны каля берага. А тут самае для яе месца. За бабровай грэбляй лёд мацнейшы, а перад ёй не такі трывалы. Прабівае часам яго вада, а рыба потым да новай палонкі цягнецца. Вось і становяцца лісіцы заўзятымі «рыбаловамі» ў такіх месцах. Вядома ж, не заўсёды ім поспех гарантаваны, але ж і ў сапраўдных рыбакоў гэткія ж самыя праблемы здараюцца. Тут і цярплівасць патрабуецца, і проста рыбацкая ўдача.

Не стаў я больш турбаваць лісіцу сваёй прысутнасцю і паспешліва прэч падаўся, дакладна ведаючы: вернецца праз нейкі час даўгахвостая хітраванка да свайго сняданку, паспешліва пакінутага.

Пасля гэтага я яшчэ некалькі разоў туды наведваўся. Амаль не замярзала вымоіна, і кожны раз відны былі каля яе сляды лісіцы. Працавала «сталоўка», ды яшчэ як працавала! У поўным рэжыме.

Пераклад з рускай Генадзя Аўласенкі

Мастачка Юлія Усава

Адам Глобус

# Жолуд

*Апавяданне пра далёкае дзяцінства*

Мастакоўства маё пачыналася з жолуда. Дакладна. Я доўга шукаў кропку, з якой пачаўся мой шлях у свет незвычайнага мастацтва, і знайшоў. Знайшоў жолуд.

Мне было шэсць. У свае шэсць я быў досыць самастойны чалавек. Настолькі самастойны, што раніцай сам уставаў з ложка, сам мыўся і чысціў зубы, сам апранаўся, адзяваўся і адзін ішоў у дзіцячы сад.

Маці яшчэ спала, калі я зашчоўкваў нашы дзверы на французскі замок і бег з пятага паверха блочнай будыніны на вуліцу. Маці позна вярталася з работы, а таму раніцай уставала пазней за мяне. Прызнаюся, мне было прыемна, што маці лічыла свайго шасцігадовага сына Валодзю дарослым хлопцам. У свае шэсць я быў для яе дарослы.

У тую цёмную лістападаўскую раніцу было холадна. Нягледзячы на вецер і золкі холад, я зусім не хацеў ісці ў сад. Звычайна я спакойна ішоў у сад, бо выхавацелькі — Клаўдзія Іванаўна і Эма Казіміраўна любілі мяне. З выхавацелькамі мне пашанцавала. У іх не было сваіх дзяцей, але да садаўскіх яны ставіліся як да родных. Нянька Святлана таксама добра ставілася да мяне, але новая выхавацелька Галіна мяне чамусьці недалюблівала. Яна ўсю нашу старэйшую групу не залюбіла. Мы для яе былі чужыя. Яна прыйшла падмяніць Эму Казіміраўну, бо тая прастудзілася. З-за злоснай Галіны ў сад ісці мне і не хацелася. Таму з двара я накіраваўся не ў сад, а да хлебнай крамы, на вуліцу Кузьмы Чорнага. Мне падабаўся пах свежага, яшчэ цёплага хлеба. Было цікава паглядзець: як той хлеб згружаюць з машыны і заносяць у краму. Хацелася пакаштаваць свежага хлеба, але папрасіць кавалак я пасаромеўся. З сорамам на языку я пайшоў ад хлебнай крамы на вуліцу Якуба Коласа. Пайшоў да будынка, дзе жыла Эма Казіміраўна, каб паглядзець на яе вокны. Быў у мяне маленечкі спадзеў, што наша выхавацелька папраўілася. У вокнах Эмы Казіміраўны гарэла святло. Значыць яна не папраўілася — сядзіць дома, і давядзецца яшчэ адзін дзень трываць злосную Галіну. Каб неяк змяніць мой кепскі настрой, я вырашыў знайсці сабе ў падарунак гладкі жолуд.

Каля дома Эмы Казіміраўны рос высокі дуб. Пад тым дубам я з бацькам штовосень збіраў жалуды. Бацька любіў, каб на паліцах з кнігамі ляжала пара-тройка жалудоў і каштанаў. Калі ён на святы прыязджаў з Масквы ў Мінск, дык кожную раніцу праводзіў мяне ў сад, па дарозе мы падыходзілі да дуба па жалуды. Такі ў нас быў рытуал з адведваннем самага высокага дрэва на нашай караткаватай і пыльнай вуліцы Чарнышэўскага.

Сярод сухой травы і пакарабачанай лістоты я знайшоў невялічкі жолуд. Ён яшчэ не згубіў свой шурпаты каптурык. Разам з каптурыкам жолуд і апынуўся ў кішэні майго палітона.

З жолудам у кішэні я прыйшоў у сад. Нягледзячы на паход да хлебнай крамы і пад велічны дуб, у сад я з'явіўся адзін з першых. Амаль заўсёды я прыходзіў у

сад ці не першым і сыходзіў ці не апошнім. Але ў гэты дзень мяне не выпусцілі з дзіцячага сада. Мяне пакаралі і прымусілі сядзець у кутку на крэсле. Я сядзеў за стэлажом з цацкамі і чакаў маці. Мне нават не хацелася тлумачыць несправядлівай Галіне, што маці мая вызваляецца толькі а восьмай, калі зачыняе бібліятэку. Тая бібліятэка месціцца на першым паверсе інтэрната, дзе жывуць будаўнікі з чацвёртага трэста. Гэтаму ж трэсту належыць і дзіцячы сад, у якім мяне трымаюць на крэсле за стэлажом з дзяржаўнымі цацкамі. Каб не пакаранне, я б сам пайшоў з сада ў бібліятэку. Эма Казіміраўна і Клаўдзія Іванаўна мяне спакойна адпускалі да маці ў бібліятэку. Дарэчы, шмат хто з нашай групы сам хадзіў з сада дамоў. Люда Калбасіна хадзіла сама, бо яе дом стаяў зусім побач з садам. Таня Нічытайла таксама хадзіла сама. Усім, каму выхавацелькі давяралі ў старэйшай групе, можна было прыходзіць і сыходзіць з сада самастойна. Былі і такія, каму даверу не было. Вася Шыш-Дударга, Алег Салалайка, Дзіма Часнакоў маглі лгаць, маглі нават пакрасці рэчы, а таму давер страцілі. Іх прыводзілі і забіралі бацькі. Добра, што ўсе іх бацькі былі ў Мінску. Таму калі не маці, дык тата знаходзіў час, каб забраць з сада сваё дзіця. Мой бацька з’ехаў вучыцца ў Маскву. У маці на ўсё не хапала часу. Яна працавала ў бібліятэцы, яна арганізоўвала літаратурныя вечарыны і сустрэчы пісьменнікаў з чытачамі, яна развозіла кнігі па інтэрнатах і прафілакторыях, дзе жылі рабочыя з нашага будаўнічага трэста, яна даглядала нашу кватэру. Ёй вельмі дапамагала мая самастойнасць. А тут на табе — мяне пакаралі і не выпускаюць з сада. Смех сказаць — пакаралі за малюнак.



Малюнак Адама Глобуса

Перад вячэрай мы малявалі. Галіна загадала намаляваць караблі, якія рабілі рэвалюцыю. Яна доўга расказвала пра браняносец «Пацёмкін» і пра крэйсер «Аўрора», расказвала пра рэвалюцыйных матросаў і гарматы на караблях. Потым мы мусілі намаляваць караблі рэвалюцыі. Фіма Зак маляваў крэйсер «Аўрора» з вялізнай гарматай. З гарматы выляталі: чырвонае полымя і чорны снарад. Той снарад, на думку Зака мусіў забіць крыважэрнага рускага цара. Акрамя чырвонага полымя на малюнку Зака была яшчэ і чырвоная пяціканцовая зорка на белым

борце «Аўроры». Каб Зак спыніўся і больш нічога не дамаляваў, дык не было б ніякага скандалу, але Фіма не спыніўся. На борце крэйсера яшчэ заставалася шмат месца, і там намаляваўся вялізны чорны павук гітлераўскай свастыкі. Фіма, колькі на яго не крычалі і колькі яго не пыталі, так і не змог адказаць нешта ўцямнае на простае пытанне... «Нашто ты намаляваў свастыку?» — крычала Галіна. «Смешна!» — казаў Фіма Зак і спрабаваў засмяяцца. «Табе смешна? Хто табе сказаў, што зорка са свастыкай выглядаюць смешна? Табе бацькі такое казалі? Ці нехта з дзяцей, табе сказаў, што гітлераўская свастыка выглядае смешна? Устаў, узяў крэсла, пайшоў у прыбіральню і там сеў у кутку тварам да сцяны!» Фіма заплакаў і павалок сваё крэсла ў прыбіральню. «Твой мярзотны малюнак я пакажу не толькі тваім бацькам, і загадчыцы дзіцячага сада пакажу! Хай усе ведаюць пра тваё смешнае і гітлераўскае, ідыёцкая ты морда!» Фіму мне стала шкада. Для мяне свастыка з зоркай не выглядалі смешна, але ўсё адно я шкадаваў Зака. Можа і дарма, бо з-за яго пакаралі і мяне. Праўда, я не намаляваў браняносец «Пацёмкін» і крэйсер «Аўрора» не намаляваў. Я вырашыў, што рэвалюцыю лепей рабіць, плаваючы на падводнай лодцы. Таму я заняўся канструяваннем падводнага чоўна. На аркушы ў клетку я выкрасліў чорным алоўкам абрыс падводнай лодкі, убачанай зверху. Для мяне гэта была падводная лодка, а для недасведчанага гледача — звычайны выцягнуты праставугольнік. У правай частцы праставугольніка з'явіўся цёмна-сіні квадрат — машыннае аддзяленне. Да яго далучыўся квадрат блакітны — камбуз. Вузкі праставугольнік жоўтага колеру — сталовая. Вузкі праставугольнік цёмна-зялёнага ляснога колеру — спачывальня. Каюта капітана — чырвоны квадрат. Сябе на той лодцы я бачыў капітанам у чырвонай каюце. Капітан мог аддаваць самыя розныя загады. У яго было нават права на запуск ракеты, якая захоўвалася у памяшканні, што на плане пазначалася фіялетавым квадратам. Мой план падводнай лодкі быў, як і ўсе падобныя планы, сакрэтны. Я не збіраўся нікому тлумачыць, што на ім абазначае фіялетавы квадрат і цёмна-зялёны праставугольнік. І не сказаў бы, каб не скандал.

*Адам Глобус (сапраўднае імя — Уладзімір Адамчык) — паэт, празаік, эсэіст, аўтар шматлікіх кніг і добры мастак: сам намаляваў ілюстрацыю да апавядання, якое вы чытаеце.*

Выхавацелька Галіна схапіла мой аркуш з планам падводнай лодкі і закрычала яшчэ грамчэй, чым яна крычала на Фіму Зака: «Гэта яшчэ што такое? Я цябе, Уладзімір, пытаю... Што ты намаляваў? Я расказвала вам пра рэвалюцыю, пра караблі, пра браняносец «Пацёмкін» і крэйсер «Аўрора». Я паказвала кнігу з гэтымі караблямі і папрасіла іх намаляваць. Прасіла? Адзін, морда ідыёцкая, намаляваў свастыку на рэвалюцыйным крэйсеры, а другі намаляваў чорт ведае што? Ты сам хоць разумееш, што ты малюеш? Разумееш? А я сумняюся, што ты разумееш. Ты не мне, ты маці сваёй растлумачыш сэнс свайго малюнка. Мне нічога тлумачыць ужо не трэба. Ты не выканаў заданне. Устаў! Узяў крэсла і пайшоў за стэлаж з цацкамі. Там сядзеш носам да сцяны і будзеш чакаць маці. Калі яна прыйдзе, мы пагаворым пра тваё маляванне.

Седзячы тварам да сцяны, я заснуў. Сядзеў і спаў, пакуль Галіна зноў не пачала крычаць. Цяпер яна крычала на Зака-старэйшага. Крычала на бацьку Фімы: «Вы паглядзіце, што намаляваў ваш сын! Паглядзіце-паглядзіце! За такі малюнак

я магу выгнаць вашага Фіму з дзіцячага сада. Ваш сын прапагандуе фашызм! Ён зняважыў савецкую святыню!» Бацька Фімы — непамерны Барыс Зак маўчаў. Выхавацелька крычала, а ён маўчаў. Ён чакаў, калі скончыцца лямант. Здавалася, што крык выхавацелькі не аціхне ніколі, але ўсё, што мае пачатак, мусімець і заканчэнне. Галіна сціхла. Зак старэйшы ўзяў за руку Зака малодшага і звёў з сада.

Паціху-патроху з сада пасыходзілі ўсе дзеці маёй групы. Я застаўся адзін. Звычайна, калі нехта заставаўся ў групе адзін, яго вялі на першы паверх да малодшых, і там усе разам старэйшыя і малодшыя чакалі бацькоў з нянькай і загадчыцай дзіцячага сада, бо выхавацелькі сыходзілі дамоў. Мая выхавацелька вырашыла дачакацца маіх бацькоў. Дачакалася. Прыбегла маці. Уся ўсхваляваная: «Дзе мой Валодзя?» — «Ён пакараны! Сядзіць тварам да сцяны, за стэлажом з цацкамі! Уладзімір, можаш устаць і падысці да сваёй маці!» — «Я зірнула на гадзіннік, а там — амаль восем! Хутка восем, а Валодзя не прыйшоў з сада. Падумала — нешта здарылася. Прыбегла, а ты сядзіш пакараны. Што ты зрабіў?» — «Нічога я не зрабіў!» Тут выхавацелька пачала ўздымаць трэцюю хвалю сваёй антыфашыстоўскай барацьбы. Першая хваля — нашае пакаранне, другая хваля — аблайванне Барыса Зака, трэцяя — крык на маю маці... «Ён здзекаваўся з мяне! Адзін намаляваў свастыку на «Аўроры», а другі маляваў нейкія living рознакаляровыя праставугольнікі і квадраты. Не дзеці, а ворагі савецкай улады. Ворагі! Такіх трэба праганяць з савецкіх садоў і школ. Такім не павінна знаходзіцца месца сярод савецкіх дзя...» Выхавацелька і далей крычала б на маці, каб тая не падышла да яе ўшчыльную і не сказала: «Змоўкні!» Галіна змоўкла на паўслове. «Цяпер, пакажы малюнак майго сына...» — «Фіма намаляваў свастыку...» — «Пакажы мне малюнак майго сына — Вовы!» Галіна ўзяла маю «Падводную лодку» і працягнула маці. «Валодзя, што гэта?» — «Падводная лодка, калі на яе паглядзець зверху. Чорны квадрат — машыннае аддзяленне, чырвоны квадрат — каюта капітана...» — «Зразумела! А ты што крычыш на ўвесь горад? Не можаш распытаць у дзіцяці пра яго малюнак? Трэба было яго пакараць? Зараз я пайду да загадчыцы, да Антаніны Іванаўны, і мы з ёй разбяромся... Каго і за што трэба пакараць?»

Я апрануўся, і мы ўсе спусціліся на першы паверх, дзе зайшлі ў малодшую групу. Загадчыца сада сустрэла нас усмешкай. Яна ўсіх і заўжды сустракала шырокай усмешкай на сваім круглым, як вечаровая поўня, твары. Поўню аздаблялі вялікія акуляры. «Антаніна Іванаўна, я буду скардзіцца на выхавацельку Галіну!» — пачала маці. «Валодзя, пачакай маму на вуліцы...» — папрасіла мяне загадчыца нашага сада.

У цёмным садаўскім двары ішоў снег, ціхі і густы. Першы снег, як і заўжды, да непазнавальнасці змяняў навакольны свет, які з цёмнага і чорнага рабіўся светлым. Падумалася — усе несабраныя жалуды схаваюцца пад снегам. Тата прыедзе толькі пад Новы год. Мы зноў па дарозе ў сад зойдзем пад свой велічны дуб. Там я і перадам яму жолуд, які сёння падняў з зямлі...

Па дарозе дамоў маці сказала: «Антаніна Іванаўна паабяцала, што Галіна больш не будзе працаваць у вашай групе. Калі не вернуцца Эма і Клаўдзія, яна сама іх заменіць. Твой малюнак з падводнай лодкай мы сягоння ўвечары пакладзём у капэрту, а раніцай адправіш ліст у Маскву, да таты. Думаю — яму спадабаецца твой малюнак».

Так і атрымалася. Тата павесіў мой малюнак над сваім працоўным сталом, пра што і напісаў нам у лісце: «Абстракцыя Валодзі цяпер вісіць над маім сталом...»

# Бярозка



*Штомесячны грамадска-палітычны і літаратурна-мастацкі часопіс (для дзяцей сярэдняга і старэйшага школьнага ўзросту)*

***Выдаецца са снежня 1924 года***

***Узнагароджаны ордэнам «Знак Пашаны»***

Заснавальнік
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова
«Выдавецкі дом «Звязда»

В.а. галоўнага рэдактара
Святлана Дзмітрыеўна Дзянісава



Адрас рэдакцыі
Юрыдычны адрас:
Рэспубліка Беларусь, 220013, г. Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10а.
info@zvyazda.minsk.by
Тэл./факс: 8 (017) 287-19-19.

Паштовы адрас:
Рэспубліка Беларусь, 220005, г. Мінск,
пр. Незалежнасці, 39.
bjarozka@zviazda.by
http://www.maladost.lim.by/berezka
Тэл.: 8 (017) 284-85-24;
8 (017) 284-41-88.

Падпісныя індэксы:
74822 — індывідуальны
74888 — індывідуальны льготны для членаў БРПА
748222 — ведамасны
74879 — ведамасны льготны для ўстаноў адукацыі і культуры

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі № 210 ад 23.04.2013, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь

Выдавец
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова
«Выдавецкі дом «Звязда».
Дырэктар — галоўны рэдактар
Аляксандр Мікалаевіч Карлюкевіч

Намеснік галоўнага рэдактара:
Г. П. Аўласенка
Рэдактары:
К. В. Захарэвіч, Ю. С. Ваўчок
Мастацкі рэдактар:
А. У. Галота
Тэхнічны рэдактар, камп'ютарная вёрстка:
Г. К. Кірэенка
Камп'ютарны набор:
А. Г. Кахноўская
Стылістычны рэдактар:
А. І. Саламевіч

Падпісана да друку ??.10.2016 г.
Фармат 60x84 1/8. Друк афсетны.
Ум. друк. арк. 7,44. Ул.-выд. арк. 6,13.
Тыраж экз. Заказ

Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства
«БудМедыяПраект»
ЛП № 02330/71 ад 23.01.2014,
вул. В. Харужай, 13/61, 220123, Мінск, Рэспубліка Беларусь



**01** Калі сур'ёзна. Усё лішняе — за межы
**02** Па-дарosламу. Цела майго горада
**03** Пазакласнае. Брацік
**05** Праслушка. Індывідуальнасць вучняў: што гэта?
**06** Адзін дзень. Аналітыка мары
**08** Сітуацыя плюс. Залежнасць & захапленне
**11** Праектар. Па гендары
**13** 13-я. Начны ўрок
**14** Я сардэчка Беларусь. Кірмаш у Стоўбцах
**22** Школьныя даследаванні. Па суседстве з вёскай Броўск, або Навуковая работа пра паходжанне назваў вёсак і ўрочышчаў, дарог і прасек паўночнай часткі Белавежскай пушчы
**26** Бел.літ. Расшыфруем коды паэта
**28** Нетэкст. «Росмэн» ці «Махаон»?
**29** Я — мастак. Вывяды. Сітуацыя «голага караля» або кансерватыўная адукацыя
**33** Я — мастак. Я ведаю мастацтва. Параўнай плады і дыню
**34** Я — мастак. Я ведаю мастацтва. Прарыў у выяўленчым мастацтве, які ты возьмеш на ўзбраенне
**36** Я — мастак. З натуры. Будуем куб
**37** Зярняткі веры. Паломніцтва. Лаўрышаўскі манастыр. Тут малітвы мацнейшыя
**40** Зярняткі веры. Малітва слоў. «Нашто каласы, калі няма васількоў»
**41** Зярняткі веры. Малітва слоў. Чалавеку, які шукае
**42** Школа журналістыкі. У гасцях у Марыі Апанасаўны
**43** Школа журналістыкі. Мой горад
**44** Школа журналістыкі. Марыя Раманоўская: «Самавучкі больш арыгінальныя»
**46** Верасок. Проза. Хлопчык і сланяня
**47** Верасок. Проза. Хто дурнейшы?
**48** Верасок. Паэзія
**50** Літаратурныя старонкі. Паэзія. Наталля Цвірко. У свеце шмат розных нязнаных дзівосаў
**54** Літаратурныя старонкі. Проза. Алег Трушын. Запасны выхад са… шпакоўні
**56** Літаратурныя старонкі. Проза. Алег Трушын. У кожнага свой шлях
**57** Літаратурныя старонкі. Проза. Алег Трушын. «Сталоўка» лісіцы
**60** Літаратурныя старонкі. Проза. Адам Глобус. Жолуд

Клуб сяброў часопіса (які фарміруецца з кожным нумарам і складаецца з школ аўтараў, а таксама школ з найбольшай колькасцю падпісчыкаў) прадстаўлены на сайце.

На першай старонцы вокладкі графіці па вул. Кастрычніцкай, мастак Bazinato

## Пытанні для знаходлівых

**1.** Які дзень пачынаецца на літару «з»?
**2.** Чаму аўтобусы стаяць на прыпынках?
**3.** Яна ёсць у кожным кутку, хоць сама круглая.
**4.** Ежы ўвесь час патрабуе, а як напоіш — памірае. Што гэта?
**5.** Сам цёмны, але без святла жыць не можа.
**6.** Што можна бачыць і нават адчуваць на далоні, але нельга схаваць у куфэрак альбо кішэню?
**7.** Якое жаночае імя можна запісаць як трыццаць літар «я»?




— Міколка, як табе не сорамна! — сварыцца маці на сына, калі вяртаецца на кухню пасля тэлефоннай размовы. — Я ж прасіла цябе прасачыць за малаком!

— А я і прасачыў! — пакрыўджана адказвае Міколка. — Малако збегла роўна ў 15 гадзін 13 хвілін.

**— Сідараў, складзі сказ з дапаўненнем, — звяртаецца да вучня настаўніца.**

**— Я ем кашу, — адказвае вучань.**

**— А дапаўненне?**

**— З маслам.**

Вучань — настаўніку:

— Скажыце, ці можна пакараць кагосьці за тое, што ён не рабіў?

— Ну, вядома ж, нельга! — адказвае настаўнік.

— Вельмі добра, бо я не зрабіў дамашняе заданне.

# Падарунак ад Вожыка

Часопіс сатыры і гумару



*Аўтар Аляксандр Каршакевіч*

Адказы на пытанні для знаходлівых:
1. Заўтра.
2. Таму што сядзець не ўмеюць.
3. Літара «о» ў кожным слове «куток».
4. Агонь.
5. Цень.
6. Сонечны праменьчык.
7. Імя Зоя (30-Я).

# Каляндар Бярозка

Даты і падзеі

Што ўспомніць, чым заняцца, што прачытаць

Лістапад



«У лістападзе кладзі капусту ў кадзі». Хоць ты, дружа, і вельмі заняты чытаннем-пісаннем-вершаскладаннем, але ж схадзі, будзь малайчынай, з бабуляй на рынак, дапамажы даставіць гародніну дамоў і нарыхтаваць на доўгую зіму смакаты для ўсёй вашай сямейкі. Хрумсцець капустай прыемна, калі чытаеш класіку…



7

У 1896 годзе нарадзіўся Максім Бяднейшы, або Юрка Куртаты, або Міхаіл Сымонавіч Кудзелька. Гэта хто? — ты, дружа, пэўна, папытаеш. Ды гэта ж Міхась Чарот! Паэт, празаік, драматург, рэдактар. Пачытай пра яго што-небудзь, каб пасля здзівіць настаўніцу белліту.



18

Мы дастаткова мелі іх, радкоў, напісаных без роздуму, што ні для сэрца, ні для розуму… Так заклапочаны станам і ўзроўнем літаратурнай творчасці паэт Анатоль Вярцінскі. Ён нарадзіўся ў гэты дзень у 1931 годзе. Пачытай што-небудзь, дружа, пра сінтаксічны паралелізм і іншыя сродкі ўзмацнення мастацкай рэальнасці — і заўтра будзеш ведаць трошкі больш, чым сёння.



26

86 гадоў спаўняецца Уладзіміру Караткевічу. Не юбілей, канешне, але сур'ёзная нагода, каб прачытаць нешта, ім напісанае. Прачытай, дружа, «Ладдзю роспачы» і напішы артыкул у «Белліт». У цябе атрымаецца!

«Усе Святыя як засваволяць, дык дрэвы дарэшты аголяць». Гэта пра Festum omnium sanctorum, Дзень Усіх Святых, які адзначаецца 1 лістапада. У гэты дзень каталікі моляцца за памерлых. А ты мо святкуеш Хелоўін? Гэтае свята жартоўнае, хоць з хрысціянствам таксама звязана. Пачытай пра гэта больш. Як зробішся экспертам у гэтым пытанні, падзяліся ведамі з «Бярозкай». Яе чытачы табе будуць удзячныя!



ISSN 0320-7579



9 770320 757007



16010

EAC